*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 16 снежня 1988 г. № 50 (3460) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# Баліць твой боль, Арменія

Усе словы здаюцца ў гэтыя дні фальшывымі.

Хіба можна словамі выказаць усё тое, што адбылося ў Арменіі? Хіба словы «трагедыя», «гора», «няшчасце», «боль» сапраўды перадаюць трагедыю, гора, няшчасце, боль? Гора заўсёды большае за тыя словы, якімі мы спрабуем яго патлумачыць. Словы суцяшэння, сказаныя, мімаходзь, прыдатныя, мусіць, толькі на звычайныя дні, а ў бядзе яны не самыя лепшыя памочнікі. Чалавецтва не прыдумае такіх слоў, якія былі б роўныя чалавечаму няшчасцю.

Дзіцячыя вочы, адкапаныя, вызваленыя з-пад руін, з цемры, ужо, лічы, з магілы... Ды яны ж намнога мацней усіх слоў, якія мы ведаем.

Чым могуць памагчы словы чалавеку, які прывёз у нядаўнюю вёску хлеб і бачыць, што яго няма тут каму аддаваць?

І якія словы спачування знайсці нам, убачыўшы хоць бы на экране тэлевізара тое, што яшчэ нядаўна было дваццацітысячным горадам — у Спітаку чатыры тысячы дамоў разбураны дашчэнту, а ў іх жа радаваліся і смяяліся Людзі.

Што скажам, пачуўшы, што ўсе дзеці — да аднаго! — загінулі ў сваёй роднай вёсцы?

Гора трэба выплакаць, яно павінна выбалець.

Бяда, сляпая стыхія чамусьці асабліва ўдарыла менавіта па дзецях — школы, у якіх ішлі заняткі, аказаліся дужа ненадзейнаю сховаю і ў вёсках, і ў гарадах, а дахі з заўсёдных абаронцаў ператварыліся ў ворагаў. І наш розум адказваецца ўспрымаць такое: «На вялікі жаль, пасля землетрасення асталося дужа мала дзяцей...»

Божа мой, як пасля ўсяго гэтага, што тут адбылося, вярнуць зямлі цяплынь і прывабнасць, як палюбіць яе нанова, такую, здавалася б, абыякавую і бязлітасную? Зямлю, якая ў гэтыя снежаньскія дні прынесла столькі гора людзям, што спрадвек любілі яе.

Выйсце адно: прымірыцца з роднай зямлёю. І ў першую чаргу прымірыцца з болю дзяцей, бо гэтая зямля, нягледзячы ні на што, свая, ад продкаў дадзеная ў спадчыну, бо яе любілі і шанавалі дзяды і прадзеды гэтых дзяцей, бацькі гэтых дзяцей, якія навек засталіся пад абломкамі сваіх вясковых хат і гарадскіх кватэр.

Мы ўвесь час гаварылі пра дэфіцыт спагады і спачування. Аказваецца, мы дарэмна наракалі на цябе, чалавек, што ты жорсткі і абыякавы да такога ж, як і сам, гаротніка. Няпраўда! Гэта толькі ў будзённым жыцці ты такі раўнадушны. Трагедыя заўсёды адкрывала твае самыя лепшыя, самыя высакародныя якасці.

Зірніце, як ускалыхнуўся ад бяды ўвесь наш вялікі Савецкі Саюз. Кожная рэспубліка прыняла гора Арменіі як сваё асабістае гора, кожны чалавек, чым можа, спяшаецца дапамагчы армянскаму народу — хто пераводзіць свае сціплыя зберажэнні, хто аддае паліто, хто прысылае дзіцячую сукеначку. Нават дзеці разбіваюць свае капілкі — яны разумеюць, што там, дзе гора, спатрэбяцца і іх манеткі.

Ды што Савецкі Саюз! Увесь свет ускалыхнула армянская трагедыя. Якія ж мы былі несправядлівыя, якія жорсткія, калі агулам абвінавачвалі ўсіх людзей планеты ў абыякавасці і раўнадушнасці, у тым, што яны быццам бы жывуць па нейкіх «воўчых законах». А яны, высвятляецца, такія ж чуллівыя і ўважлівыя, як і мы самі.

Людзі на час забыліся пра свае беды і няшчасці. І тыя, хто толькі што сам перажыў навадненне, і тыя, каго ўсё яшчэ даймае засуха, і тыя, хто аплаквае свае толькі што прашумелыя смерчы і каму сродкі ой як патрэбны, кінуліся дапамагаць далёкай і незнаёмай ім Арменіі. Бо ўсе мы людзі, бо ўсе чалавекі і добра ведаем, што гэтыя сродкі зараз будуць патрэбныя менавіта там.

І наша родная Беларусь, сама яшчэ не акрыяўшы ад жудаснай чарнобыльскай бяды, з усёю душою кінулася на дапамогу роднай закаўказскай сястры — на спагаду і ўзычлівасць мы, беларусы, дзякаваць богу, пакуль што яшчэ багатыя.

У брацтва людзей на зямлі аб'ядноўваюць жыхароў планеты трагедыі. І як шкада, што для таго, каб людзі проста і лёгка паразумеліся, ім абавязкова трэба чакаць нейкай трагедыі.

Ідуць у Арменію дзесяткі і тысячы, сотні тысяч і мільёны грошай у рублях і доларах. О, каб яны маглі замяніць родных і блізкіх, што загінулі ў руінах, каб яны маглі вярнуць сына — маці, дзіця — бацькам, дзяўчыне — яе каханага...

Паплач, мой армянскі дружа. Не хавай слязу. Мужчынская сляза таксама не загана. Не саромейся яе, бо яна не ад слабасці. Яна, ці чуеш, ад тваёй сілы!

Пасля ты ўстанеш і пойдзеш па роднай зямлі яшчэ больш моцны і мужны, чым да трагедыі.

Разам з усім сваім народам

Разам з усімі народамі Савецкага Саюза.

Разам з усімі народамі свету.

Успамінаю, як выступаў у Македоніі, у Скоплі, на мітынгу паэзіі, а сам шукаў слядоў страшэннага землятрусу, які не так даўно сцёр з твару зямлі гэты горад. Шукаў і не знаходзіў — горад быў зялёны, светлы і радасны.

Хадзіў па вуліцах Ашхабада, таксама хацеў убачыць, што засталося ад той жудаснай ночы, калі стыхія поўнасцю разбурыла сталіцу Туркменіі, але зноў жа нічога не знаходзіў — горад быў зялёны, светлы і радасны.

Так будзе і з тваімі гарадамі Ленінаканам, Кіраваканам, Спітакам, — тваімі сённяшнімі ранамі, Арменія.

**Янка СІПАКОЎ.**

●

Зноў землятрус,  
Як і ў вяках былых.  
Паранена зямля твая  
каменная...  
Прымусіў здрыгануцца  
ўсіх жывых —  
Твой плач, твой гнеў,  
І кроў твая, Арменія.

Дайшоў да сэрцаў  
Твой нясцерпны боль.  
Руіны — ад крыві тваёй  
— праменныя.  
Схілілася Зямля ўся  
над табой  
Каб гору памагчы твайму,  
Арменія.

Крупінка ў свеце ты,  
а як відна,  
Вядомая паўсюль,  
сястрыца родная,  
Бо ты такая на Зямлі  
адна —  
Цярплівая, нязломная,  
гаротная.

Нібы папераджаеш  
увесь свет:  
Не набліжайце, людзі,  
Дзень свой чорны,  
Калі пакіне смертаносны  
след  
Свой землятрус —  
Забойца рукатворны;  
Калі не будзе выказаць  
каму  
Свой боль, свой гнеў,  
Свой плач і сваё гора,  
І ядзерна-знішчальную  
зіму  
Зямля адчуе ў немаце,  
як горы.

**Юрась СВІРКА.**

●

За што трагедыю табе  
Наканаваў лёс як  
ні зроду?  
Ці мала слёз, ці мала бед  
Было у нашых у народаў?

І сёння мы твой  
горкі боль,  
Як свой уласны,  
падзяляем,  
І сёння мы перад табой  
Галовы нашыя схіляем.

Як блізкія свае, ў журбе  
Душы тваёй мы чуем  
мукі,—  
І мы працягваем табе  
Братэрскія жывыя рукі.

Мы памянём ахвярных,  
тых,  
Каго няма і ўжо  
не будзе.  
І не забудзем пра жывых:  
Нам жыць жа, людзі!..

**Міхась РУДКОЎСКІ.**

# На рахунак 700412

**Цяжка, немагчыма перадаць у словах маштаб трагедыі, якая абрынулася на братнюю Арменію. Ды і хіба можна словамі прыцішыць боль людзей, якія страцілі сваіх родных, блізкіх! У руінах — Ленінакан і Спітак, разбураны Кіравакан і Сцепанаван, зніклі з зямлі, зруйнаваны многія паселішчы.**

**Болем адазвалася армянская трагедыя і ў сэрцы беларускага народа. Сёння кожны з нас перажывае гэткае самае пачуццё, якое перажывалі жыхары братняй Арменіі, калі даведаліся пра аварыю на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, прысак якой апёк многія раёны Беларусі. Тады шматлікія пераводы, пасылкі накіроўваліся ў чарнобыльскі фонд. Цяпер вось — спецыяльны рахунак № 700412 у армянскім рэспубліканскім банку Жылсацбанка СССР.**

**5 мільёнаў рублёў у фонд дапамогі пацярпеўшым накіравалі беларускія прыхільнікі міру, якія сабраліся на сумесны пленум Беларускага камітэта абароны міру і праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру.**

**У фонд пацярпеўшым перададзена 50 тысяч рублёў Беларускім аддзяленнем Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна. Акрамя таго, супрацоўнікі фонду пералічылі на рахунак 700412 свой аднадзённы заробак.**

**Адбылося некалькі дабрачынных канцэртаў, у якіх прынялі ўдзел вядомыя дзіцячыя самадзейныя калектывы. Шэраг канцэртаў мяркуюць даць юныя артысты дзіцячага паказальнага харэаграфічнага ансамбля «Мульцік» Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Першае выступленне яго ўжо адбылося ў сацыяльна-культурным цэнтры аб'яднання. У гэтыя дні ў праўленні Беларускага аддзялення дзіцячага фонду часта звіняць тэлефонныя званкі: сем'і Беларусі выказалі жаданне прытуліць больш за 500 армянскіх дзяцей.**

**Разбуральная стыхія не пашкадавала ў Арменіі і ачагоў культурнага прызначэння: палацаў культуры, клубаў, музеяў, бібліятэк. На аднаўленне іх перавёу 15 тысяч рублёў Беларускі фонд культуры.**

**Супрацоўнікі выдавецтва «Юнацтва» накіравалі тэлеграму сваім калегам з армянскага выдавецтва «Арэвік» («Сонейка»). У тэлеграме выказваецца спачуванне армянскаму народу з выпадку трагедыі, падзяляецца смутак у сувязі з трагічнай гібеллю многіх дзяцей, паведамляецца аб пераводзе на рахунак 700412 10 тысяч рублёў.**

**10 тысяч рублёў паступіла на гэты ж рахунак ад выдавецтва «Полымя», 20 тысяч — ад выдавецтва «Беларусь», 25 тысяч — «Мастацкай літаратуры». Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі пераваяло дзённы заробак у суме 1500 рублёў і 500 рублёў, выдзеленых прафкомам і камітэтам камсамола.**

**У Саюзе пісьменнікаў Беларусі першымі пераваялі грошы на рахунак № 700412 Янка Брыль і Янка Сіпакоў.**

**Не засталіся ўбаку ад гора армянскага народа работнікі тэатраў. Многія з іх пералічваюць у фонд дапамогі свой дзённы заробак, як зрабілі гэта, напрыклад, калектывы тэатраў оперы і балета, лялек, юнага гледача.**

**Адбылося нямала дабрачынных спектакляў. Купалаўцы паказалі «Парог», горкаўцы — «Макбет», тэатр юнага гледача — «Нечаканыя госці», тэатр лялек — «Тры парасяці»...**

**Дабрачынным стаў і першы канцэрт новага калектыву «Жывіца» пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі БССР В. Пархоменкі, які прайшоў у нядзелю ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**Свой дзённы заробак вырашылі перавесці на рахунак 700412 супрацоўнікі рэдакцый часопісаў «Полымя», «Беларусь», «Нёман», а таксама газеты «Літаратура і мастацтва».**

 

## З пошты «ЛіМа»

# ● ПЕРАБУДОВА І МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ

# ● «РЭКТАРАТ ЛІЧЫЦЬ МЭТАЗГОДНЫМ...»

# ● ЧАГО НЕ ЎРАЗУМЕЎ ГІСТОРЫК

●

Прыцягнула ўвагу новая лімаўская рубрыка «Перабудова і міжнацыянальныя адносіны», з цікавасцю прачытаў артыкулы У. Калесніка і А. Сідарэвіча. Важная тэма, тут шмат праблем...

Апублікаваныя нядаўна «Асноўныя мерапрыемствы па далейшаму развіццю народнай адукацыі ў Беларускай ССР», у прыватнасці, раздзел аб далейшым развіцці беларуска-рускай двухмоўнасці, узмацненні патрыятычнага і інтэрнацыяльнага выхавання, сведчаць, што ў рэспубліцы пачынаецца маштабная работа па вызначэнні статуса беларускай мовы, узнаўленні ленінскіх норм нацыянальнай палітыкі.

Прапаную ўключыць у доўгатэрміновую праграму «Родная мова», якая будзе распрацавана ў адпаведнасці з Асноўнымі мерапрыемствамі, палажэнні аб беларускамоўным навучанні ў агульнаадукацыйнай і прафесійнай школе. На жаль, Асноўнымі мерапрыемствамі не прадугледжваецца пераход на беларускамоўнае навучанне ў прафесійнай школе, у вышэйшых навучальных установах, акрамя выкладання асобных дысцыплін студэнтам-філолагам спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура». Без беларускамоўнага навучання ў агульнаадукацыйнай і прафесійнай школе застаецца маларагодным пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы на вытворчасць, навуку, культуру, органы дзяржаўнага кіравання. Зразумелы рэальныя цяжкасці масавага пераходу на беларускамоўнае навучанне і справаводства на прадпрыемствах і ва ўстановах. Аднак, мне здаецца, такую задачу можна вырашыць — пастулова, разам з пераадольваннем беларускамоўнай непісьменнасці і моўнай прадузятасці часткі насельніцтва.

Увогуле нацыянальная свядомасць беларусаў настолькі нізкая, што нам нельга пагарджаць нават найменшымі прыкметамі нашай беларускасці. Добрае псіхалагічнае ўражанне магло б зрабіць беларускамоўнае афармленне гарадоў і вёсак, аўтамабільных дарог, розных этыкетак і ўпаковак, бланкаў сувязі і г. д. Наогул у нашай рэспубліцы немагчыма ададсобіць задачы перабудовы ад вырашэння гэтай балючай праблемы: нізкай прэстыжнасці беларускай мовы.

Канечне, заўсёды знойдуцца людзі, якія не бачаць у беларускасці ніякай патрэбы, якія гавораць у сувязі з гэтым аб свабодзе выбару мовы навучання і г. д. Але ці свабодны сёння гэты выбар, які падрыхтаваны шматгадовым адлучэннем беларускіх дзяцей ад роднай мовы, выхаваннем у іх абыякавасці і пагарды да яе? Дзе, як не на тэрыторыі рэспублікі, яе нацыянальная мова павінна быць дзяржаўнай, а рэспубліканскія, дзяржаўныя органы — клапаціцца аб вывучэнні мовы, яе паўсюдным прымяненні, выхаванні пашаны да яе — гэта ж так натуральна! У сувязі з гэтым хачу закончыць свой ліст вытрымкай з выступлення на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі першага сакратара ЦК Кампартыі Грузіі Д. І. Паціяшвілі: «Менавіта наша партыя, інтэрнацыянальная па сваёй сутнасці, павінна выступаць сёння галоўным гарантам асноватворных каштоўнасцей і святынь нацыянальнага духу — самабытнасці, культуры і мовы».

**М. ХАДОРКІН,**
**начальнік фінансавага аддзела Гомельскага хімзавода імя 50-годдзя СССР.**

●

У рэспубліканскім друку апублікаваны ўмовы конкурсу на стварэнне помніка воінам-інтэрнацыяналістам. Нарэшце! Але засмучае адно — месца для помніка. Чаму іменна — Чыжоўка? Хай не будзе сказана ў крыўду жыхарам Чыжоўкі, але ж гэта — ускраіна горада. Як да яе дабрацца з Зялёнага Луга, Усходу, Захаду, Паўночнага Захаду, Вяснянкі, Уручча і іншых мікрараёнаў, з чыгуначнага вакзала, аэрапорта?.. У асноўным — праз цэнтр горада. На маё разуменне, помнік ствараецца не толькі і не столькі для таго, каб праводзіць масавыя мерапрыемствы (хоць і без іх не абыдзешся), а для таго, каб туды маглі прыйсці бацькі, бабулі і дзядулі, браты і сёстры, школьныя сябры, аднапалчане тых, хто загінуў у Афганістане. Маглі б пастаяць, памаўчаць, пакласці кветкі. Дык няўжо ў цэнтры сталіцы не знойдзецца месца для такой святой справы? Хоць я не мастак і не дойлід, а просты будаўнік, аднак лічу, што помнік можна ўзвесці, да прыкладу, на вуліцы Інтэрнацыянальнай. Ёсць там і сквер (шчыра кажучы, цяпер ён вельмі запушчаны), дзе мог бы стаяць помнік. Тым болей, што амаль усе адсюль (са зборнага пункта аблваенкамата) пайшлі служыць, пайшлі ў Вечнасць...

Мне здаецца, што не лішне будзе параіцца з людзьмі і наконт месца для помніка.

**І. ПЛАЎСКІ,**
**сын «прапаўшага без вестак» у час Вялікай Айчыннай, бацька салдата тэрміновай службы.**
г. Мінск.

●

Нейкі час назад савет Мінскага педагагічнага інстытута, абмеркаваўшы пытанне аб «грамадска-палітычнай сітуацыі, звязанай з дзейнасцю нефармальных аб'яднанняў», вынес наступную (не магу не адзначыць: надта цікавую!) рэзалюцыю: «Рэктарат і партыйны камітэт лічаць мэтазгодным у бліжэйшыя дні ва ўсіх студэнцкіх аўдыторыях даць праўдзівую інфармацыю пра асаблівасці грамадска-палітычнай абстаноўкі, арганізаваць індывідуальную выхаваўча-прафілактычную работу з «лідэрамі» самадзейных аб'яднанняў і заслухаць у працоўных калектывах іх справаздачы аб асабістым укладзе ў перабудову (персанальная адказнасць ускладаецца на кіраўнікоў і сакратароў партарганізацый факультэтаў, дзе працуюць і вучацца такія людзі), у дэканатах правесці індывідуальныя сустрэчы і гутаркі з бацькамі студэнтаў-членаў самадзейных клубаў і груп моладзі, раскрыць сутнасць і небяспеку нацыяналістычнай настроенасці іх дзяцей».

Уяўляю, колькі мацярок і бацькоў, выкліканых у інстытут, схопяцца за валідол, пачуўшы ў час «індывідуальных сустрэч і гутарак» пра небяспечную «нацыяналістычную настроенасць» сваіх дарослых дзяцей. Няцяжка здагадацца, чым можа абярнуцца «выхаваўча-прафілактычная» работа з «лідэрамі» самадзейных аб'яднанняў і запланаваныя іх справаздачы ў працоўных калектывах». Тым больш, што пастановай рэктарата і парткома ўсе яны загадзя ўжо залічаны ў разрад «нацыяналістычна настроеных»!

Пастанова гэтая, несумненна, народжана перш за ўсё той нездаровай абстаноўкай, якая на працягу некалькіх тыдняў нагняталася ў нашай рэспубліцы прэсай.

Але была яшчэ і ўнутраная прычына. А іменна тая атмасфера, якая панавала ў час пасяджэння савета і якая ў канчатковым выніку і прадвызначыла з'яўленне працытаванага вышэй дакумента. Уяўленне пра яе можна скласці, прачытаўшы ў інстытуцкай газеце «Савецкі настаўнік» (2 лістапада 1988 г.) паведамленне пра даклад, з якім перад членамі савета выступіў прарэктар па навучальнай рабоце В. Атрошчанка. У ім інфармацыя пра «нефармалаў» была пададзена ў такім ключы, што гэта — «нацыяналістычныя групоўкі», якія свае сапраўдныя мэты «старанна маскіруюць клопатам пра развіццё нацыянальнай мовы» і г. д.

Даклад яўна не спрыяў спакойнаму, дзеламову абмеркаванню ўзнятай праблемы. Не дзіва, што ў такой сітуацыі і нарадзілася такая вось пастанова вучонага савета. Сапраўды, калі розум спіць, нараджаюцца..

Але ўсё ж... Чаму члены савета, людзі, у большасці сваёй вопытныя, якія шмат пабачылі на сваім вяку, не пярэчылі? Чаму з гатоўнасцю праглынулі яўна непераканаўчыя, шытыя белымі ніткамі довады? Ці не сталі яны ахвярамі той самай атмасферы страху, падазронасці, пра якую гаварылася ў пачатку ліста? Страху перад злавесным стэрэатыпам «нефармала», створаным такімі газетнымі публікацыямі, як «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», «Пена на хвалі перабудовы»?

А можа, сёй-той, як і ў выпадку з артыкулам Ніны Андрэевай, палічыў, што галоснасці і дэмакратызацыі прыходзіць канец, што ў гэтай сітуацыі лепш прамаўчаць і не высоўвацца?

І яшчэ адно пытанне: ці апошняя гэта кампанія? Бо за нейкі год з невялікім рэспубліканскі друк «перахварэў» цэлым шэрагам кампаній — супраць «шагаламаніі», супраць «буржуазнага пацыфізму» А. Адамовіча, супраць таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі» і інш.

Ці не час выздараўліваць?

**У. СЕМЯНЮК,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

●

Хутка споўніцца 170 гадоў з дня нараджэння кампазітара Станіслава Манюшкі. Нарадзіўся ён у Беларусі ў пасёлку Убель на Міншчыне (40 кіламетраў ад Мінска). Мала хто знаёмы з гэтай жывапіснай мясцінай, дзе ўстаноўлены 3-метровы абеліск. На ім надпіс на беларускай і польскай мовах: «Тут, у фальварку Убель, 5 мая 1819 г. нарадзіўся вялікі польскі кампазітар Станіслаў Манюшка». Побач пабудаваны санаторый-прафілакторый «Волма». Мне пашчасціла нядаўна адпачываць у гэтай здраўніцы. Працуе тут культмасавы работнік і бібліятэкар Вольга Мікалаеўна Паскробка, вялікі прыхільнік таленту Станіслава Манюшкі. У санаторыі афармлены стэнд пра яго жыццё і творчасць. Вольга Мікалаеўна знаёміць адпачываючых з асноўнымі падзеямі жыцця кампазітара і яго творчасцю.

У 2-х кіламетрах ад былой сядзібы Манюшкі, у 8-гадовай школе пасёлка Азёрны створаны адзіны ў свеце музей кампазітара. Ён працуе на грамадскіх пачатках. Дырэктар музея — Васіль Васільевіч Несцяровіч (ён жа і дырэктар мясцовай школы). У чатырох маленькіх пакоях экспануюцца малюнкі і фотаздымкі. Цэлы пакой прысвечаны оперы «Галька». Касцюмы і здымкі падораны польскімі сябрамі.

З Убелем звязана практычна ўсё жыццё Манюшкі. Тут ён правёў дзяцінства. У Убель ён прыязджаў на канікулы з Мінска і Варшавы, дзе атрымліваў адукацыю. Вялікі ўплыў на кампазітара аказалі яго маці і бацька, а таксама ўся атмасфера родных мясцін. У Убель і Мінск дарослы ўжо Манюшка прыязджаў пастаянна. Гэта было звязана не толькі з цікавасцю да беларускай музыкі, але і з сядзібай, пакінутай яму ў спадчыну. Ужо будучы вядомым кампазітарам і дырэктарам варшаўскага опернага тэатра, ён вымушаны быў прыязджаць хоць бы для таго, каб удзельнічаць у абласных выбарах, як уладальнік Убеля. Прыязджаў ён сюды з задавальненнем, бо меў шмат сяброў. Кампазітар быў любімы народам і мясцовай інтэлігенцыяй. Тут былі створаны яго першыя творы, песні, рамансы, оперы «Сялянка», «Страшны двор», «Галька», якія ідуць на сцэне ў многіх краінах свету.

Цяпер паведамлю пра самае сумнае, на мой погляд. Месца, дзе была сядзіба Манюшкі, запушчана. Драўляны стары плот зарос бур'яном. Весніцы павалены. Мармуровы абеліск увесь пабіты, мае глыбокія і дробныя ўпадзіны, у некаторых месцах адбіты вуглы. Кажуць, што пры адкрыцці помніка ў 1966 годзе ля кустоў, бэзу і пад старадаўняй таполяй стаялі лаўкі, былі разбіты алеі і кветнікі, аднак нічога гэтага цяпер няма, засталася адна тоўстая старая таполя, якая памятае тыя часы, калі пад ёй бегаў маленькі Стась. Хацелася б перанесці музей Станіслава Манюшкі са школьнага памяшкання. Захаваліся малюнкі і фотаздымкі сядзібы вялікага кампазітара. Вольга Мікалаеўна расказвала, што штогод 5 мая ў Убель прыязджаюць паклоннікі таленту Манюшкі з Польшчы і нашы кампазітары.

Музей у пасёлку Азёрны праводзіць работу па зборы матэрыялаў пра Станіслава Манюшку. Нядаўна тут даведаліся, што ў Японіі інстытут культуры названы імем С. Манюшкі. Дык няўжо мы не можам як след ушанаваць памяць выдатнага кампазітара напярэдадні слаўнага юбілею? Засталося ўжо не так многа часу.

**М. ШАЎЦОВА,**
**мастак-керамiст.**
г. Мінск.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# «МАЕ БРАТЫ, МАЕ СУСЕДЗІ...»

Гэтыя паэтычныя словы, якія належаць пяру класіка беларускай літаратуры і прагучалі, як мы помнім, пры адкрыцці Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску, найлепшым чынам характарызуюць даўнія адносіны беларускага і польскага народаў. На розных этапах гістарычнага шляху мы разам змагаліся за лепшую будучыню, «за нашу і вашу волю». Нас цесна звязваюць шмат якія агульныя падзеі, даты, імёны... Касцюшка, Каліноўскі, Урублеўскі, Міцкевіч, Агінскі, Манюшка, Сыракомля... Мы разам адзначаем памятныя гадавіны. Нядаўна грамадскасць рэспублікі разам з гасцямі з ПНР адзначыла 45-ю гадавіну ўтварэння Войска Польскага, удзелу 1-й пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі ў бітве за Днепр пад беларускім сялом Леніна. Днямі ў Навагрудку адбудзецца, па ініцыятыве Саюза пісьменнікаў БССР, вечар, прысвечаны 190-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча (нагадаем, што ў апошнія гады выйшлі, адзін за адным, у перакладзе на беларускую мову два пераклады «Пана Тадэвуша» — Браніслава Тарашкевіча і Язэпа Семяжона). Музычная грамадскасць рэспублікі рыхтуецца адзначыць у маі наступнага года 170-ю гадавіну з дня нараджэння Станіслава Манюшкі...

У сваім звароце да ўдзельнікаў і гасцей віцебскага фестывалю польскай песні М. С. Гарбачоў зазначыў: «Ваша свята — праяўленне духоўнай блізкасці савецкага і польскага народаў, велізарнай цікавасці адзін да аднаго, у чым я яшчэ раз пераканаўся ў час нядаўняй паездкі ў ПНР. Сёння, калі мы прымнажаем свае намаганні ў справе абнаўлення сацыялізму, карэннай перабудовы ўсіх сфер грамадскага жыцця, мастацтва атрымлівае новы прастор і можа больш рабіць для ўмацавання брацкага супрацоўніцтва паміж нашымі народамі».

У святле гэтага выказвання робіцца яшчэ больш зразумелым далейшая актывізацыя творчага супрацоўніцтва паміж польскімі і савецкімі літаратарамі, у прыватнасці, паміж пісьменнікамі Савецкай Беларусі і іх польскімі таварышамі па пяру, у тым ліку тымі, што пішуць па-беларуску. Так, напрыклад, нядаўна ў Мінску знаходзіліся прадстаўнікі вядомага варшаўскага часопіса «Літаратура на свеце» Вацлаў Садкоўскі і Эўгеніюш Кабатц з мэтай, каб чарговы нумар часопіса прысвяціць сучаснай беларускай літаратуры. Са свайго боку Польшчу наведалі ў апошні час з творчымі мэтамі, для ўдзелу ў розных імпрэзах С. Андраюк, Р. Барадулін, Д. Бічэль-Загнетава, А. Вярцінскі, С. Законнікаў, В. Зуёнак, У. Казбярук, А. Лойка, А. Пяткевіч, А. Сульянаў...

Для ўдзелу ў мерапрыемствах, звязаных з 30-годдзем Беластоцкага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», ездзіў летам у Польшчу і наш вядомы празаік Барыс Сачанка. Уражаннямі ад паездкі ён падзяліўся ў сваім нарысе «На зямлі Беластоцкай», надрукаваным у «ЛіМе» за 11 лістапада г. г. На жаль, у дарожных нататках Б. Сачанкі дапушчаны, па віне аўтара і рэдакцыі, некаторыя фактычныя і стылёвыя недакладнасці, непрадуманыя палажэнні. На гэта звяртае нашу ўвагу беластоцкі чытач «ЛіМа», журналіст Віктар Рудчык, гэта выклікала адпаведную рэакцыю ў пэўных польскіх колах і стала прадметам размовы на апошнім пасяджэнні прэзідыума



 

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

11 лістапада 1988 года ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» быў змешчаны артыкул Д. Сімановіча «Ці дайшла да нас перабудова?» На думку аўтара, яна ў нас на Віцебшчыне нейкая не такая, як у сталіцы. Першае. Ён заяўляе, што ў Віцебску быццам забаранілі выпусціць у эфір перадачу пра фестываль джазавай музыкі па праграме Віцебскай студыі тэлебачання. Так гэта ці не, добра не ведаю. Але адразу паўстае пытанне: «Ці галоўнае гэта ў перабудове?» Джазавая і рок-музыка гучыць сёння па ўсіх каналах Цэнтральнага і рэспубліканскага тэлебачання, на ўсіх эстрадных пляцоўках. Рэдакцыі літаратурна-драматычных і музычных перадач, якую ўзначальвае Д. Сімановіч, можа, трэба паклапаціцца аб тым, каб больш прапагандаваць народныя мелодыі, самадзейныя калектывы, беларускія і віцебскія традыцыі? Працаўнікам сяла, ды і большай частцы гарадскога насельніцтва яўна не хапае тых мелодый, якія створаны народам, якія ласкаюць душу, робяць чалавека лепшым і чысцейшым. Чаму вы, Д. Сімановіч, не хочаце гэта зразумець? Чаму інтарэсы нейкіх сталічных груп вам бліжэй, чым народныя? Прабачце, але складваецца ўражанне, што вам сімпатычныя ідэі сталічнага дзеяча Л. Крывіцкага —кіраўніка палітычнага клуба «Сучаснік», аднаго з ініцыятараў стварэння ў рэспубліцы так званага «народнага фронту». Свае некаторыя пасяджэнні клуб праводзіць сакрэтна. Таму мы не ведаем усіх ідэй гэтай групы. Але тое, што стала вядома, выклікае здзіўленне. Каму патрэбна ўкараняць палавыя адносіны на дагаворчай аснове замест сямейна-шлюбных?

Другі клопат Д. Сімановіча — ён марыць аб тым, калі б у Віцебску быў створаны камітэт па перабудове, які б, цытую: «нарэшце выказаў бы грамадскую думку аб увекавечанні памяці М. Шагала на яго радзіме». Так, Шагал нарадзіўся ў нашай вобласці і нейкі час жыў у Віцебску. Але не пакінуў наш зямляк гораду ніводнай карціны, ні вітражу, ні добрага следу аб сваім пражыванні. Дык чаму мы павінны адкласці ўсе іншыя справы і кінуцца ўшаноўваць памяць М. Шагала? Думаецца, што ёсць у віцябчан справы больш неадкладныя.

Хачу сказаць, што большасць віцябчан ведаюць, што такое перабудова, якія яе мэты і як яе ажыццяўляць. Але вось не зусім зразумела, чаму вы, чалавек, які мае вышэйшую адукацыю, не хочаце зразумець, што першачарговымі патрэбамі працоўных вобласці з'яўляюцца не прапаганда рок-музыкі, не ўшанаванне памяці Шагала і іншыя блытаныя ідэі, а забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, рашэнне жыллёвай праблемы, карэннае паляпшэнне медыцынскага і бытавога абслугоўвання, стварэнне належных умоў для працы і духоўнага ўзбагачэння людзей? Такія праграмы ў вобласці і ў г. Віцебску выпрацаваны і яны ажыццяўляюцца. Сёння жыхары г. Віцебска і іншых гарадоў могуць свабодна купляць малако, прастаквашу, тварог і сыры. Чаму? Таму, што ў аграпрамысловым комплексе адбываюцца значныя змены да лепшага. Удумайцеся, за 5 год надоі малака павялічыліся на 30 працэнтаў. Вось гэта і ёсць паскарэнне.

Толькі ў гэтым годзе ў 550 вёсках з'явіўся асфальт на вуліцах. Да гэтага трэба дадаць, што за 3 гады пабудавана амаль 15 тысяч сядзіб. Паглядзіце, якія цудоўныя вёскі з'явіліся ў калгасе імя С. М. Кірава Віцебскага раёна, у саўгасе «Гарадоцкі».

А паглядзіце, як добра вырашаецца жыллёвая праблема. За няпоўныя 3 гады пяцігодкі ўдалося звыш плана пабудаваць больш за 100 тысяч квадратных метраў жылля.

Вы крытыкуеце М. А. Федарчука — старшыню Віцебскага гарвыканкома за тое, што ён не захацеў прыняць віцебскіх журналістаў. Крытыка сёння—справа патрэбная. Але яна павінна быць канструктыўная і добразычлівая. Можа, лепш было б журналістам расказаць чытачам, як гарвыканком займаецца добраўпарадкаваннем горада. Удумайцеся, за адзін год заменена 17 кіламетраў цепласетак, заасфальтавана 20 кіламетраў вуліц. Звярніце ўвагу, якія ў горадзе з'явіліся кафэ, якія цудоўныя магазіны па продажу садавіны і агародніны, іншых тавараў, колькі зроблена па добраўпарадкаванні плошчаў, сквераў, вуліц, дзіцячых пляцовак. Пачалася рэстаўрацыя былых Пакроўскай царквы і касцёла св. Варвары. За няпоўныя 3 гады, якія Федарчук працуе старшынёй, у горадзе столькі зроблена па добраўпарадкаванні, колькі не рабілася за дзесяцігоддзі.

Ці можна сёння сказаць, што перабудова на Віцебшчыне ўжо скончылася? Канечне, не. Але толькі сляпы не можа бачыць, якія змены ўжо ёсць. Давайце ўсе разам, дружна, адказна, галосна будзем вырашаць справы па перабудове нашага жыцця.

**М. ГЛУШОНАК,**
**намеснік загадчыка Дома палітасветы Віцебскага АК КПБ.**

# ХТО І ЯК РАЗУМЕЕ ПЕРАБУДОВУ

## ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

Паважаны Мікалай Іосіфавіч. Прачытаў ваш ліст (на гэтай старонцы ён надрукаваны з нязначнымі скарачэннямі) і падумаў, што, хоць датаваны ён канцом лістапада 1988 года, але мог быць напісаны і дзесяць,і пятнаццаць гадоў назад.

Праўда, ужываеце вы словы, народжаныя новым часам: перабудова, галоснасць, дэмакратызацыя, але ўжо нават сам тон ліста нагадвае колішні час, калі дружна нешта і некага выкрывалі, забаранялі, заклікалі да пільнасці і г. д.

Вось, скажам, вы, «ничтоже сумняшеся», прысвойваеце сабе права гаварыць ад імя народа. «Працаўнікам сяла ды і большай частцы гарадскога насельніцтва яўна не хапае тых мелодый, якія створаны народам, якія ласкаюць душу, робяць чалавека лепшым і чысцейшым», — пішаце вы. Навошта ж так, Мікалай Іосіфавіч? Навошта наводзіць цень на плячень? У артыкуле «Ці дайшла да нас перабудова?», які выклікаў ваш ліст, няма і ценю нігілізму ў адносінах да народнай музыкі. Але калі вы ўжо закранулі «музычную тэму», дык дазвольце спытаць: вы сапраўды лічыце, што людзям, акрамя народнай, ніякай іншай музыкі не трэба? А мо ім усё-такі «яўна не хапае» і класічнай, і лёгкай, у тым ліку і джазавай музыкі, пра якую гаворыцца ў лісце Д. Сімановіча?

Дарэчы, вось вам некаторыя факты, скажам так, музычнага выхавання віцябчан. Я перагартаў падшыўку «Віцебскага рабочага» і натрапіў там на артыкул С. Навумчыка «Ці пражывём без Баха?». Пра што ён? А вось пра што: «Усе трыста крэслаў залы Віцебскага гарадскога Палаца культуры былі пустыя. У той дзень у горадзе не знайшлося ніводнага чалавека, які б пажадаў спаткацца з музыкай Моцарта і Вівальдзі ў выкананні Мінскага камернага аркестра». Аўтар артыкула, дарэчы, нагадаў пра багатыя музычныя традыцыі Віцебска, дзе яшчэ ў 1918 годзе была адкрыта першая ў Савецкай Расіі народная кансерваторыя на чале з Мікалаем Малько, які заснаваў тут і сімфанічны аркестр. Сёння ў горадзе не знойдзеш нават прафесійнага настройшчыка фартэпіяна.

У сваім лісце, Мікалай Іосіфавіч, вы закранулі і тэму «нефармальных» аб'яднанняў. Сапраўды, апошнім часам па ўсёй краіне, у нашай рэспубліцы назіраецца вялікае ажыўленне грамадскага руху, павышэнне актыўнасці інтэлігенцыі, моладзі, усяго грамадства, што, безумоўна, звязана з агульнай атмасферай дэмакратызацыі і галоснасці. Вам жа ўсё гэта, Мікалай Іосіфавіч, чамусьці не падабаецца. З прыкрасцю пішаце вы, напрыклад, пра мінскі палітычны клуб «Сучаснік», абапіраючыся няйначай на чуткі. Што на гэта сказаць? Можна па-рознаму адносіцца да грамадскіх аб'яднанняў, да таго ж палітычнага клуба «Сучаснік», ухваляць ці не ўхваляць іх дзейнасць, але ж навошта, карыстаючыся падазронымі крыніцамі, рабіць брудныя намёкі, розныя інсінуацыі і да т. п.?

Не абышлі вы ў сваім лісце і памяць М. Шагала. Дарэмная справа даказваць вам, што гэта быў мастак з сусветным імем, вы яго ой-ой не прызнаяце. Што ж, застаецца пашкадаваць славутага маэстра, калі ўжо вы цвёрда перакананы, што «...ёсць у віцябчан справы больш неадкладныя, чым ушаноўваць гэтага мастака», што «першачарговымі патрэбамі працоўных вобласці, — пішаце вы, — з'яўляюцца не прапаганда рок-музыкі, не ўшанаванне памяці Шагала і іншыя блытаныя ідэі (?), а забеспячэнне насельніцтва прадуктамі харчавання, рашэнне жыллёвай праблемы, карэннае паляпшэнне медыцынскага і бытавога абслугоўвання...»

Значыць, па-вашаму: або рок, або багатыя паліцы ў магазінах. Ці: або Шагал, або вырашэнне жыллёвай праблемы. Калі верыць вам, рок разам з Шагалам пацярпелі ў Віцебску сакрушальнае паражэнне, бо, аказваецца, «сёння жыхары Віцебска і іншых гарадоў могуць свабодна купляць тварог, малако, сыры і кіслае малако», бо, як вы далей паведамляеце, «за няпоўныя 3 гады пяцігодкі ўдалося звыш плана пабудаваць больш як 100 тысяч квадратных метраў жылля».

Каб гэтыя лічбы, Мікалай Іосіфавіч, ды будаўнікам у вушы! А пакуль што чытаю ў тым жа «Віцебскім рабочым» справаздачу з пленума гарадскога Камітэта партыі і звяртаю ўвагу на наступныя радкі: «Звыш 70 тысяч жыхароў Віцебска не маюць сёння добраўпарадкаванага жылля. Нямала ў горадзе прадпрыемстваў, дзе ў чарзе на кватэры стаяць з шасцідзесятых гадоў... З тысячы сем'яў не могуць уладкаваць дзяцей у дзіцячыя сады і яслі... У шэрагу школ з-за адсутнасці памяшкання вучні вымушаны займацца ў тры змены». Той жа мінорны тон і ў паведамленні абласнога ўпраўлення статыстыкі за 9 месяцаў гэтага года: «Востраймй застаецца праблема забеспячэння насельніцтва многімі прадуктамі харчавання. Не задавальняецца попыт на мяса і мясапрадукты... Не хапае кандытарскіх вырабаў... Недастатковы аб'ём і асартымент у гандлі бульбы і гародніны».

Міжволі пачынаеш думаць, Мікалай Іосіфавіч, што вашы ўяўленні аб забеспячэнні Віцебска прадуктамі харчавання грунтуюцца няйначай на ўласных магчымасцях у гэтай справе.

Пакрыўдзіла вас і тое, што ў артыкуле «Ці дайшла да нас перабудова?» быў пакрытыкаваны старшыня Віцебскага гарвыканкома М. Федарчук, пад кіраўніцтвам якога, па вашых словах, шмат што зроблена па добраўпарадкаванні горада. «Удумайцеся, — прапануеце вы, — за адзін год заменена 17 кіламетраў цепласетак, заасфальтавана 20 км вуліц, пачалася рэстаўрацыя былых Пакроўскай царквы і касцёла св. Варвары».

Што ж, зноў звярнуся да адной з апошніх публікацый «Віцебскага рабочага»: «У пачатку сямідзесятых гадоў знеслі старую, з фрагментамі XVIII стагоддзя забудову правага боку вул. Леніна, бо, быццам бы, не было дзе разварнуцца транспарту. Цяпер вырашылі па той жа прычыне «прасекчы» пешаходную арку ў будынку былога кляштара...»

Шмат пішацца ў абласной газеце пра заганы ў арганізацыі аховы здароўя, у прыватнасці, пра тое, што трапіць да ўрача не простая справа — трэба выстаяць доўгую чаргу. У абласной стаматалагічнай паліклініцы чаргу, напрыклад, займаюць у 5—6 гадзін раніцы. Па норме на кожныя 10 тысяч жыхароў неабходна мець 5 стаматолагаў, ёсць — адзін.

Шмат праблем і ў такой справе, як барацьба з п'янствам. У сваім дакладзе на XI пленуме АК КПБ першы сакратар Віцебскага абкома партыі У. В. Грыгор'еў падкрэсліў, што за апошнія тры гады ў вобласці ад ужывання алкагольных сурагатаў загінула 700 чалавек. На глебе алкагалізму бацькоў нарадзілася шмат непаўнацэнных дзяцей.

«Ці можна сёння сказаць, што перабудова на Віцебшчыне ўжо скончылася?»—задаяце вы рытарычнае пытанне. І, крыху павагаўшыся, пагаджаецеся, што трошкі яшчэ не дацягнулі. «Але толькі сляпы не можа ўбачыць, якія змены ўжо ёсць», — тут падхопліваеце вы.

Сапраўды, працоўныя Віцебшчыны шмат чаго дамагліся ў працэсе абнаўлення жыцця. Толькі ўзнікае такое пытанне: ці маюць яны, Мікалай Іосіфавіч, патрэбу ў гучнагалосых «салаўях перабудовы».

**М. ЗАМСКІ,**
**загадчык аддзела публіцыстыкі і нарыса «ЛіМа».**

## ЗАДАЮЦЬ ЧЫТАЧЫ ПЫТАННІ...

**Узрастанне цікавасці да перыядычнага друку — адзнака часу. Красамоўнае сведчанне гэтай цікавасці — нядаўняя падпісная кампанія, якая выклікала нязнаны ніколі раней, сям-там ажно нездаровы ажыятаж.**

**Гэта, вядома, тычыцца найперш рускамоўнага друку. Аднак пэўны зрух адбыўся і ў адносінах чытача да прэсы на роднай мове. Вынікі падпіскі сведчаць, што і «ЛіМ» будзе мець у наступным годзе значна больш сваіх сталых чытачоў.**

**Пра пашырэнне кола прыхільнікаў нашага штотыднёвіка сведчыць і іншае. Скажам, сустрэчы супрацоўнікаў рэдакцыі і членаў рэдкалегіі «ЛіМа» з чытачамі. Прытым, сустрэчы гэтыя адбываюцца па ініцыятыве саміх чытачоў. Чытанне лімаўскіх старонак нараджае ў іх жаданне спаткацца і пазнаёміцца з тымі, хто робіць газету, пачуць ад іх адказы на ўзнікшыя пытанні, непасрэдна выказаць супрацоўнікам рэдакцыі свае заўвагі і прапановы, падзяліцца сумненнямі.**

**Апошнім часам адбылося некалькі такіх сустрэч. Аб адной з іх — са слухачамі і выкладчыкамі Мінскай вышэйшай партыйнай школы, якая адбылася на пачатку кастрычніка, «ЛіМ» расказваў у адным са сваіх нумароў. Другая сустрэча прайшла ў бібліятэцы Мінскага інстытута культуры. Там са студэнтамі, выкладчыкамі і супрацоўнікамі інстытута адкрытую, нязмушаную гаворку, а правільней будзе сказаць — дыялог вялі намеснік галоўнага рэдактара М. Гіль, загадчык аддзела публіцыстыкі М. Замскі, загадчык аддзела пісьмаў Л. Крушынская і супрацоўнік аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў П. Васілеўскі.**

**Трэцяя сустрэча адбылася тыдзень назад—9 снежня. Гэтым разам супрацоўнікаў рэдакцыі запрасіў у госці Рэспубліканскі Дом работнікаў мастацтваў. Сустрэча прайшла пры перапоўненай зале ў дзелавой, рабочай атмасферы, яна таксама мела характар дыялога гаспадароў і гасцей узаемнага абмену інфармацыяй, прапановамі і пажаданнямі.**

**Аб змесце і праблематыцы гэтага дыялога найлепш гавораць пытанні чытачоў, што сабраліся тым пятнічным вечарам ва ўтульнай зале РДМ. Вось, скажам, хоць бы такія:**

«Што разумеецца пад дзяржаўнасцю мовы, аб чым так шмат гавораць? Як, на ваш погляд, можна практычна зрабіць беларускую мову роднай для тых, каму зараз 50 і 10 гадоў?»;

«Ці надрукуе «ЛіМ» у бліжэйшы час праграму моўнай камісіі Беларускага фонду культуры і дэкларацыю «Мартыралогу Беларусі»?»,

«Ці вы лічыце, што бюракраты аддадуць уладу без барацьбы? Пра гэта павінна гаварыць ваша газета!»;

«Да якога часу галоўны санітарны ўрач Мінска будзе дэзінфармаваць мінчан аб экалагічнай абстаноўцы ў горадзе?»;

«Мы — тры магутныя галіны тысячагадовага дрэва (Украіна, Беларусь, Расія). Наколькі сёння нам важныя агульныя «карэнні», агульнасць нашых культур?»;

«У 1948 годзе «ЛіМ» надрукаваў артыкул акадэміка Дарожкіна, у якім ганьбаваўся выдатны беларускі генетык Жэбрак. Як вам удалося не надрукаваць у 1988 артыкул «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», падпісаны, сярод іншых і Дарожкіным?»;

«Неяк мне пашанцавала купіць каробку цукерак, у якой было нешта накшталт паштовачкі з надпісам: «Беларусі— 70 год». Што гэта, эвалюцыя гістарычнага невуцтва? Ці прафанацыя? Не збіраецца «ЛіМ» неяк ліквідаваць гэты гістарычны вакуум?»;

«Адкажыце шчыра, хто ў рэшце рэшт «мае» права адхіліць, заціснуць, забараніць, адкласці, зняць з паласы і г. д. той ці іншы матэрыял? Дзе межы галоснасці, скажам, «ЛіМа»? І што можа зрабіць грамадскасць у плане абароны права газеты на сваю пазіцыю?»..

**На гэтыя і шматлікія іншыя пытанні спрабавалі даць адказ чытачам галоўны рэдактар «ЛіМа» А. Вярцінскі, намеснік рэдактара М. Гіль, адказны сакратар А. Ганчароў, загадчыкі аддзелаў Г. Каржанеўская, Л. Крушынская, М. Замскі.**

**НАШ КАР.**

*Крытыка, бібліяграфія*

Святлана МАРЧАНКА

# У жанры праўды

**Ніл Гілевіч. Повязь. Вершы і песні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.**

ВЫПАДКОВА даведалася, што водгук на гэтую кнігу меўся зрабіць Сцяпан Гаўрусёў. Уяўляю, з якой жывой цікавасцю прачыталася б напісанае ім. У крытычнай прозе гэты паэт не адыходзіў далёка ад асноўнага, што не-не дый выпадае з поля нашага зроку, — ад сацыяльнасці ў паэзіі, яе грамадска карыснага статусу.

С. Гаўрусёў не паспеў напісаць пра кнігу Ніла Гілевіча «Повязь». Добры намер, аднак, павінен ажыццявіцца. Духоўная повязь паміж людзьмі вечная. Як вечнае ў прынцыпе само жыццё. Думку гэтую, дарэчы, ідэйна і тэматычна якраз і пацвярджае кніга «Повязь», напісаная з адчувальным сацыяльным зарадам, з упэўненасцю: шлях літаратурны — цярністы, а паэзія — не сізіфава праца...

Няхай гэта выглядае крыху спрошчана, але я падзяляю паэтаў як бы на дзве катэгорыі: тыя, што жадаюць нешта змяніць у жыцці, і тыя, што жадаюць нешта змяніць у паэзіі. Першых — няшмат. І зусім неабавязкова, што яны — менш таленавітыя. Проста паэзія для іх — не самамэта.

Упартая вера ў тое, што паэт удзельнічае ў перабудове жыцця нароўні з тымі, хто вырошчвае хлеб, варыць сталь, будуе дамы, — настойліва гучыць у кнізе «Повязь». Уласна кажучы, з гэтай веры і пачынаецца паэт Н. Гілевіч. Адсюль — яго кроўная прывязанасць *да беларускай зямлі, на якой* нарадзіўся і ўсвядоміў сваё прызначэнне. Пачуццё сыноўняй еднасці з лёсам свайго народа, Бацькаўшчыны моцна чуецца ў вершы «Лірычны каментар да нашага радаслоўя».

**Мы ўзышлі не з насення, што**
**ветрам занесена,**
**Мы не дзікай травы**
**самарослыя парасткі.**
**У глыбінях зямлі, гераічнай**
**і песеннай,**
**Нашых душ карані —**
**з вузлякамі упартасці.**

**Сокам вотчынных гоняў**
**ад роду мы ўспоены,**
**Сонцам родных нябёс мы**
**з маленства аблашчаны,**
**Як асілкі-дубы над**
**дняпроўскімі поймамі —**
**Паяднаныя часам нашчадкі**
**і прашчуры...**

Становіцца зразумелым, чаму менавіта «лірычны каментар...» пачынае кнігу. Паэт выпраўляе нас на самы пачатак шляху. Да вытокаў. Яго найбольш цікавяць вечныя каштоўнасці, сэнс якіх глыбока *карэніцца ў бацькоўскай зямлі.* Набліжаны часавыя пласты, намечаны перспектывы: у лучнасці, у еднасці з братамі-суседзямі — гарант нашага далейшага паспяховага руху. І гэта не проста парада.

Разумная памяркоўнасць і бескампраміснасць — дзве абавязковыя ўмовы грамадзянскай пазіцыі Н. Гілевіча. Тут я стаўлю ў адзін шэраг такія вершы, як «Выміраюць плямёны», «На заходнеўрапейскія тэмы», «...Апошні аўтобус... Апошні трамвай...», «Тваё імя», «І нашы песні даўнія і скокі...», «Армянскаму сябру», «І там, на Гарыні». Гэтыя творы, як і многія іншыя, дазваляюць думаць, разважаць пра рэальнае жыццё, яго праблемы, тэндэнцыі, супярэчнасці. Свядомасць паэта ніяк не можа абмінуць рэальнасць. І па нараджэнні, і *па прызначэнні яна — орган і* сродак самой рэчаіснасці. Праз свядомасць таленавітага, неспакойнага чалавека гаворыць само жыццё.

Н. Гілевіч перакананы: ідэалогія — не нейкае там самастойнае царства «чыстага розуму». Як мастак паэт выводзіць ідэал з жыцця, не баіцца ўбачыць рэчаіснасць, якую адлюстроўвае, у «супярэчнасці паміж сваім ідэальным прызначэннем і сваімі рэальнымі прадпасылкамі» (К. Маркс). Ён не падмяняе сапраўдны аптымізм штучнай аптымізацыяй нявырашаных праблем жыцця. Таму вялікая колькасць фактаў, дробязей побыту ў кнізе не здаюцца «драбнатэм'ем». На першы план выходзіць аб'ектыўны змест або, як кажуць, «запаветны сэнс», а не чаканне, жаданне, намер аўтара. («Аўтографы сяброў», «Святочнае пасланне Васілю Быкаву», «Верш пра золата паэта», «З мангольскага сшытка»).

Значыць, паэзія факта? Мусіць, так. Але не перанесеная жыўцом, як гэта рабілася ў 20-х гадах, калі скалькаваны факт не станавіўся мастацтвам. Н. Гілевіч выкарыстоўвае факты не дзеля ілюстрацыі ідэй, не дзеля падмацавання метафар. Самі факты ў яго становяцца ідэямі, метафарамі. Вось і радок з ужо згаданага верша «нашых душ карані — з вузлякамі ўпартасці» стаў такой ідэяй, такой метафарай.

Найкаштоўнейшая якасць аўтара «Повязі» — глыбокі ўнутраны дэмакратызм, які не супярэчыць тонкай інтэлігентнасці, а, наадварот, цэментуе яе. У кнізе няма верша «Зварот на высокай ноце», які запомніўся з перыёдыкі. Дэмакратычна, з высокай годнасцю гучыць у ім прызнанне паэта: «не бог і не цар, я ўсё ж і казяўкай не чуюся. Спакойна Венеры ўглядаюся ў твар — на вымпел Радзімы любуюся».

Жыццёвы, аптымістычны дэмакратызм Н. Гілевіча вынашаны на скразняках веку. Гэта дэмакратызм новага, сапраўды сацыялістычнага тыпу.

Прагавітая цікаўнасць да жыцця — натуральнае праяўленне такога дэмакратызму. Гэтая цікаўнасць — пры ўсёй рознасці мастацкіх манер — збліжае паэта з Р. Барадуліным. Як і Р. Барадулін, Н. Гілевіч таксама мабільны: шмат дзе бывае, ездзіць. Шмат каму робіць прысвячэнні. І ў цікаўнасці, у прысвячэннях яго няма «праздной» пустаты. Аснова яго цікаўнасці — нераўнадушша, абавязковасць у адносінах да людзей і сітуацый, якія могуць сцерціся ў памяці або лжыва ўвасобіцца, калі не будуць адлюстраваны непасрэдным сведкам. Сіла дакумента, эмацыянальная напружанасць увасобіліся ў вершах: «Акадэміку Г. І. Гарэцкаму», «Каля помніка Марыі Заньковецкай у Кіеве», «Памяці Андрэя Германава», «З мангольскага сшытка» і інш.

У «Повязі» не абыходзіцца без аўтарскага жадання нешта абудзіць у чалавечых душах, выклікаць, змяніць. Н. Гілевіч — непапраўны мараліст і такі ж непапраўны філосаф. Вось чаму паэт часам займаецца ўгаворам, настойліва раіць:

**Калі табе, пясняр, патрэбны**
**ўрокі —**
**Дык вось адзін: старайся**
**гэтак пець,**
**Каб дом свой родны песнямі**
**сагрэць —**
**Тады пачуе іх і свет шырокі!**
**(«І нашы песні даўнія і**
**скокі»)**

**Філосафы, паэты, запрыкмецьце,**
**Даследуючы змест людскіх**
**патрэб:**
**Раднейшага няма нічога**
**ў свеце,**
**Як хлеб і музыка, як музыка**
**і хлеб!**
**(«Хлеб і музыка»)**

**Жывіце ж да поўнага веку,**
**сябры,**
**Не трацячы моцы і шчырасці!**
**І знайце: ніштo нам віхуры-**
**вятры,**
**Пакуль нашы шэрагі**
**ў шчыльнасці!..**
**(«Аўтографы сяброў»)**

Звярніце ўвагу на сам тон гэтых вершаў. Ён, можна сказаць, катэгарычны, пазбаўлены сентыментальнасці. Ёсць у гэтым нешта маякоўскае — аратарскае, трыбуннае. Не толькі літаратурныя настаўнікі дапамаглі паэту выпрацаваць такі *тон, а сам яго лёс* — выкладчыка ВНУ, прафесара. А галоўнае, адзначым, — яго парады супадаюць з аб'ектыўным «ходам рэчаў», якому У. І. Ленін аддаваў безумоўную перавагу перад «ходам ідэй».

За апошнія дзесяцігоддзі напісана процьма «ўнушэнняў» у выглядзе кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Іх паточная вытворчасць у нашай краіне, як паведамлялася ў друку, не ведала застою нават у самы застойны перыяд. Наадварот, менавіта тады яна і набірала паскарэнне. Штогод у нас прыбаўляецца тры тысячы дактароў, да трыццаці тысяч — кандыдатаў. Ашаламляльная статыстыка! І «абарона» ператварылася ва ўрачысты цырыманіял з загадзя распісанымі ролямі, калі дысертант сам сабе падбірае апанентаў, а часам піша для іх водгукі.

Кнігі, званні, кар'ера, прэстыж... Але спахапіліся. І высветлілася: мы дрэнна ведаем грамадства, у якім жывём. Мы навучыліся пісаць пра сваю гісторыю, свой край, свой народ так, што іх цяжка бывае пазнаць — настолькі ў нашых кнігах, падручніках, манаграфічных трактатах усё ўпарадкавана, арганізавана. Мы быццам баімся ўмяшання жывога жыцця — з усёй яго складанасцю, разнастайнасцю, непрадбачанасцю.

Думаючы аб пранікненні ў сутнасць быцця, Н. Гілевіч не забывае і пра «формы самога жыцця» — важнай прыкмеце і патрабаванні эстэтыкі рэалізму. Вось як, да прыкладу, адлюстроўваецца і выказваецца сапраўдны, а не толькі жаданы ход рэчаў у невялічкім вершы «Два-тры дразды на цэлы лес...»:

**Два-тры дразды на цэлы лес —**
**Пераклікаюцца, нібыта**
**На аняменым полі бітвы**
**З байцом параненым баец.**
**— Жывы, браток?**
**— Пакуль — жывы!**
**Ды цішыня гняце пакутна:**
**Ні падсалоўкі больш не чутна,**
**Ні берасцянкі, ні жаўны...**
**Вось толькі мы на цэлы лес.**
**Прагрэс, мой братачка,**
**прагрэс.**

Вобраз прыроды тут нясе на сабе сляды драматычнай экалагічнай сітуацыі, якая сёння хвалюе ўсё чалавецтва. Невыпадкова, не так сабе перакліваюцца толькі два-тры дразды на цэлы лес, нібыта «на анямелым полі бітвы з байцом параненым баец». Верш не дае гатовай ісціны, але раскрывае грамадскую і маральную сутнасць надзённай тэмы.

У «Повязі» няма паэм. Але кніга па сутнасці сваёй эпічная. Амаль кожны верш — малы эпас, які трымае на прыкмеце вялікую мэту — праўду пакалення, часу, эпохі. Сам жа аўтар жанравы змест кнігі пазначыў сціпла: вершы і песні. Застаецца, аднак, фактам: «Повязь» свядома празаізавана, набліжана да нязмушанасці, натуральнасці звычайнай гаворкі што заманліва і рызыкоўна.

Вершы Н. Гілевіча, на першы погляд, немузыкальныя. А калі прыгледзецца да іх рытмічных узораў, незвычайнай гукавой гармоніі? Аказваецца, паэт так наталіў свае вершы ўласнай музыкай, што кампазітары мусілі звярнуць увагу на іх.

Колькі думак у гэтай сувязі пра песнятворчасць наогул.

Шкада, што не магу тут прывесці «ўзоры» песеннага шырспажыву. У больш зручны момант, *аднак, варта павесці* гаворку пра вырашэнне агульных праблем сучаснай песнятворчасці. Найгалоўнейшая з іх — пераадоленне інерцыі. Гэта ж сёння, калі «накаціў дзевяты вал песеннай графаманіі», калі, як казала заслужаная артыстка РСФСР спявачка Алена Камбурава, у эстрадзе шмат дзе сцвердзіўся ў якасці нормы... ваяўнічы дэбілізм, калі грамадства не ўмее (ці не хоча? — **С. М.**) знайсці прымяненне духоўнасці, калі маральная эстафета, што перадаецца ад пакалення да пакалення, аказалася ў значнай меры перапынена (пераканаўчыя прыклады гэтай негатыўнай з'явы прыводзіла нядаўна ў «ЛіМе» Ала Сямёнава) — ёсць патрэба зазірнуць у новыя песенныя зборнікі. Там мы знойдзем усё, каб пацвердзіць самыя вострыя крытычныя меркаванні, каб яшчэ раз паўтарыць элементарную ісціну: *аснова песні* — словы, тэкст. Не кожная песня можа прагучаць як верш, прайсці выпрабаванне на адрыў ад мелодыі, на адрыў ад усяго антуражу, які робіць песню з некалькіх банальных чатырохрадкоўяў, рэфрэнных радкоў.

На Беларускім тэлебачанні нядаўна адбылася прэм'ера песні «Тихий уголок» (музыка І. Лучанка, словы Ю. Рыбчынскага, выканаўца Я. Еўдакімаў). Пры выдатным выкананні, але пры невыразнасці слоў і адсутнасці аўтарскіх акцэнтаў — чаму можа навучыць песня? «Тихий уголок» — гэта дом для састарэлых, «печальной старости приют». Сюды часта «сплавляют поскорей, как вьюга белых, своих отцов и матерей». Лічу, што спяваць гэтую песню — кашчунства! Уяўляю, колькі безнадзейнасці, горкай, пакутнай роспачы выклікаў шлягер у насельнікаў «тихого уголка». І ці такі ён ужо ціхі, райскі, дзе «свежий воздух, крепкий сон»?

Дваццаць дзве песні змешчаны ў кнізе «Повязь». Многія з іх знайшлі сваіх выканаўцаў, гучаць у эфіры. Далёка не кожнаму песенніку ўдаецца так пакарыць сэрцы слухачоў, як Н. Гілевічу. Прычына поспеху? Песенная паэзія Н. Гілевіча непасрэдна прадаўжае народную. Прычым народную паэзію ён не запазычвае, не пераймае, а старанна і настойліва вучыцца ў яе. Духам, зместам народнай паэзіі паэт пранікнуўся так, што яна стала арганічнай часткай яго духоўнай культуры. Сродкамі фальклорнай паэтыкі, калі захацець і не ленавацца, можна назапасіцца, Н. Гілевіч падрыхтаваў некалькі тамоў (!) народных песень. Але галоўнае, відаць, у тым, што паэт зразумеў і засвоіў ідэйна-эстэтычную сістэму фальклору. Чуйны да еўрапейскага і савецкага паэтычнага слова, Н. Гілевіч застаецца беларускім паэтам. Згадайце песню «Вы шуміце, бярозы», напоўненую рэальнасцю і казачна-былінным гіпербалізацыяй. Лірычнаму герою гэтай песні не

(Працяг на стар. 6).

НАШЫ ГОСЦІ



У час сустрэчы.

**Польскі часопіс «Літаратура на свеце» сістэматычна прадастаўляе свае старонкі літаратурам асобных краін, народаў. У 1982 г. выйшаў спецыяльны нумар, прысвечаны беларускай літаратуры.**

**Нядаўна галоўны рэдактар часопіса Вацлаў Садкоўскі і яго намеснік Эўгеніюш Кабатц наведалі Беларусь. Дарэчы, Кабатц — перакладчык твораў В. Быкава, І. Мележа, М. Танка, А. Карпюка. Мэта іхняга цяперашняга прыезду — сабраць матэрыял для нумара часопіса, прысвечанага беларускай сучаснай літаратуры. Госці мелі дзелавыя сустрэчы ў выдавецтвах «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва», у рэдакцыях часопісаў «Полымя» і «Нёман».**

**Адбылася гутарка ў праўленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, у якой удзельнічалі старшыня праўлення Максім Танк, пісьменнікі Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Паўлаў, Аляксей Гардзіцкі, начальнік Беларускага аддзялення Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах Г. Конанаў і старшы кансультант аддзялення Б. Баталаў.**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

# У ЖАНРЫ ПРАЎДЫ

(Пачатак на стар. 5).

трэба прыкідвацца нацыянальным характарам. Гэткім, пачалавечы натуральным, улюбёным у свой край, ён і з'яўляецца.

Дарэчы, пра лірычнага героя. Аўтар, як правіла, прысутнічае ў вершах сам: ён або расказвае, або слухае, або складае дарожныя запісы, або каменціруе тое, што адбываецца. Але заўсёды гэта Ніл Гілевіч, надзелены пачуццём разважлівасці, разумны, па-інтэлігенцку іранічны — перш за ўсё ў адносінах да сябе, а потым ужо да іншых. Прывяду ўякасці прыкладу верш «Вы думалі...» — характэрнае іранічнае разважанне пра мэтазгоднасць скарыстання творчай энергіі:

**Вы думалі, што я сабраўся**
**ў скачках**
**Прымаць удзел? Каб верны**
**мне мой конь**
**Сыходзіў, зацугляны,**
**пенай-жвачкай,—**
**Ляцеў за некім шустрым**
**наўздагон?**
**Ну, што вы, што вы! Хіба я —**
**наезнік?**
**І хіба конь для скачак у мяне?**
**Яго прызванне — плуг цягнуць**
**жалезны,**
**Маё — ступаць услед**
**па баразне.**

І як тут не ўспомніць маладых, якія так паспешна, неабдумана хацелі б вырашыць праблему свайго друкавання за кошт старэйшых, вядомых калег.

Выданне твораў мастацкай літаратуры — не скачкі на іпадроме. Якасць, плён, творчая актыўнасць — вось зарука друкавання.

Вось ужо сорак гадоў паэзія Н. Гілевіча пракладае самастойны шлях. Многія яго вершы жывуць і будуць жыць доўга, як жалобна-суровыя словы надпісу ў Хатыні, сказаныя паэтам ад імя тых, хто загінуў, ад імя ўсіх нас, хто прыняў у сэрца сваё народную трагедыю.

Ці ўсё ў «Повязі» служыць эталонам? Не ўсё. Надараюцца вершы, перанасычаныя падрабязнасцямі ўнутранага жыцця паэта. Такім «неадфільтраваным» ад псіхалагічнай суб'ектыўнасці я лічу верш «Стометроўкі, стометроўкі, стометроўкі».

Якія ж канчатковыя вывады? А іх няма. Паэзіі не ўласціва «падводзіць рысу». У паэзіі няма фінішу. Яна — заўсёды старт.

# ДЫЯЛОГ З ЧЫТАЧАМІ

У выставачнай зале Дзяржкамвыда БССР адбылася прэм'ера кнігі Э. Скобелева «Сегодня исповедь моя», выпушчанай выдавецтвам «Юнацтва».

Адкрыў і вёў сустрэчу рэдактар выдання Я. Хвалей.

Э. Скобелеў расказаў аб рабоце над кнігай, сваёй літаратурнай дзейнасці, прачытаў вершы, адказаў на шматлікія пытанні, падзяліўся творчымі планамі, даў аўтографы.

Такая форма прапаганды літаратуры стала ў «Юнацтве» традыцыяй. Раней адбыліся прэм'еры кніг І. Шамякіна «Зеніт», Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі», П. Ткачова «Маніфест народнага шчасця», У. Карызны «Зямля—два паўшар'і», А. Ярохіна, В. Зубкоўскага «Героямі не нараджаюцца», Я. Клімчанкі «Честь смолоду беречь» і іншых.

**М. ПАЗНЯКОЎ.**

# ПАХ ЧАБАРОВЫ...

ЧАСТА, уключыўшы радыё, лагодзіць слых знаёмая песня. Даўно і блізкая, і дарагая, яна кожны раз хораша абуджае пачуцці, вабіць сваёй прастатой і някідкасцю, якія ідуць ад народных вытокаў: «Мне б ісці каля ракі. Я пайшла дубровай, галаву маю кружыў пах чаберовы...» Аматары музыкі, можа быць, і назавуць прозвішча кампазітара Уладзіміра Будніка — як-ніяк, а мелодыя вельмі папулярная. А вось прозвішча аўтара верша, пакладзенага на музыку, прыгадае далёка не кожны. А між тым верш «Пах чабаровы» напісаны К. Кірэенкам яшчэ ў 1954 годзе.

Яно і сапраўды дзіўна. К. Кірэенка, які добра вядомы як паэт - публіцыст (грамадзянскасць у творчасці яго ў добрым сэнсе ваяўнічая, напорыстая, наступальная) — і раптам аўтар праніклёна-лірычнага «Паху чабаровага»!

Вытлумачэнне таму ў пачатку мастакоўскай біяграфіі паэта, у яго даваенных вершах «Дуб» і «Дождж». Гэтаксама невыпадкова, што адзін з даўніх твораў К. Кірэенкі «Ранак ідзе», датаваны ўжо 1941 годам (пазней, у сорак пятым, ён дасць назву першай паэтавай кнізе), спалучае ў сабе элементы фальклорныя і матывы ўласнай творчасці. У выніку з'явіўся твор, аптымістычны па сваім гучанні, які так проста і ў той жа час непаўторна перадаў радасць стваральнай працы, веру савецкіх людзей у заўтрашні дзень:

**Што ж гэта,што—цераз пушчы,**
**па нівах,**
**Шляхам, убрад па вадзе,**
**З яснаю ўсмешкай, прыгожай,**
**надзіва,**
**Быццам крадзецца —а смела,**
**імкліва?..**
**То ранак ідзе!**

**Наперадзе ж была вайна. Стралок танка, карэспандэнт армейскай газеты на Заходнім і 2-м Беларускім франтах, К. Кірэенка на доўгі час адышоў ад сваіх ранейшых матываў. Не да іх было, калі бачыў смерць і слёзы, пакуты і горыч: «Каля пажараў прыкурвалі, у касках варылі гарбату. Спявалі з вачмі пахмурнымі аб нівах сваіх і хатах». І верш, з якога прыведзены гэтыя радкі, і іншыя творы тых гадоў найперш прывязаны да канкрэтных падзей, да перажытага, убачанага на пярэднім краі барацьбы з фашызмам. На першы план у іх выступае сцвярджэнне суровых рэалій, паэтава муза быццам сама ахінулася салдацкім шынялём.**

**Аднак ваенныя творы К. Кірэенкі, правільней — творы аб вайне розняцца ад таго, што напісана аднагодкамі аўтара. Дакладна адчуў іх адметнасць В. Каваленка, які ў прадмове да Збору твораў К. Кірэенкі ў трох тамах, што выйшаў нядаўна, зазначыў: «Асаблівасцю паэтычнага светаадчування К. Кірэенкі з'яўляецца тое, што ў тэму вайны, раскрытую ў яго творчасці, вельмі арганічна і шырока, як, бадай, ні ў кога іншага з беларускіх паэтаў, уваходзіць мастацкае аблічча маці, вобраз якой мае шматмернае духоўнае значэнне».**

**Вярнуўшыся з вайны, паэт апынуўся сам-насам з багатымі жыццёвымі назіраннямі. Спачатку, зразумела, друкаваліся вершы, якія па тых ці іншых прычынах у друк яшчэ не трапілі, пісаліся новыя творы, што таксама былі прывязаны да ваеннай тэмы. Выходзілі першыя кніжкі, рыхтаваліся наступныя.**

«Ранак ідзе», «Пасля навальніцы», «Мая рэспубліка»... Перачытваючы гэтыя зборнікі К. Кірэенкі, не можаш не радавацца аўтарскай бадзёрасці, аптымізму, нават, я б сказаў, маральнаму здароўю. Усё, што адбывалася наўкола, радавала, пра ўсё хацелася сказаць. І абавязкова на высокай ноце. Абавязкова паэтызуючы рэчаіснасць, якую, можа, і не надта трэба было паэтызаваць. Але гэта ўжо меркаванне пра жыццё з вышыні сённяшняга дня.

Здагадваюся, чаму К. Кірэенка паставіў як бы эпіграфам да збору твораў, змясціўшы яго ў пачатку першага тома, верш «Мая рэспубліка». Твор, які ў свой час быў хрэстаматыйным, твор, які прагучаў як адказ на не менш вядомыя радкі Паўлюка Труса.

**Не завіце маю рэспубліку**
**Краінай цёмных лясоў!**
**Паглядзіце —**
**Над ёю свецяцца**
**Агні завадскіх карпусоў.**

За гэтым вершам, гэтаксама як і ў вайну, перажытае паэтам і яго пакаленнем. Перажытае ж забываць нельга. Недаравальна адсоўваць яго ўбок. Недаравальна нават тым, хто са сваіх самых лепшых памкненняў, прачытаўшы «агні завадскіх карпусоў», скрывіцца, прыгадаўшы страшнае экалагічнае становішча, якое сёння склалася ў рэспубліцы... не без гэтых самых «завадскіх карпусоў».

Разам з тым недаравальна— сёння ўжо і перад памяццю паэта — закрываць вочы і на тое, што К. Кірэенку, як і іншых, не абмінула часіна бесканфліктнасці, ружовага ўспрымання жыцця. Да гонару паэта, рыхтуючы Збор твораў, ён патрабавальна прасеяў напісанае, пакінуўшы паэтычнае зерне і адкінуўшы мякіну. Хоць і засталіся некаторыя вершы, якія нясуць у сабе нямала агульнага, нават спрошчанага ўяўлення аб падзеях і людзях. Тым больш на фоне іх вылучаюцца творы, якія ўжо тады, без перабольшання, пісаліся па загаду сэрца, нараджаліся як выяўленне душы, якая прагнула споведзі. Сярод іх і верш «Беларусь — Расія», адзін з лепшых твораў у беларускай паэзіі на тэму дружбы двух народаў, тэму інтэрнацыяналізму:

**На шчаслівым шляху**
**З рускім братам вітаюся я:**
**— Добры дзень!—і лаўлю**
**У адказ дружбакоў галасы я.**
**Я кажу: —Беларусь,**
**Беларусь дарагая мая!—**
**І адразу, як звон,**
**Адгукаецца ў сэрцы: Расія...**

Якраз у той час, у пачатку і асабліва другой палове пяцідзесятых гадоў лірыка К. Кірэенкі становіцца больш даверліва-адкрытай, праніклёнашчырай, авалодваючы тымі рысамі, якія былі ў зародку ў пачатку творчага паэтавага шляху і якія пазней, у такіх яго кнігах, як «Слухайце ластавак», «Сіні вырай», «Дэкрэтам сэрца», «Надзея» і іншыя, сталі вызначальнымі, не адмаўляючы сабой, аднак, публіцыстычнасці, грамадзянскай страснасці, і бескампраміснасці музы К. Кірэенкі.

**Верш «Пах чабаровы»—адзін з тых, які даў чытачу быццам другога К. Кірэенку, не таго, які, хораша заявіўшы аб сабе, не заўсёды мог вырвацца з палону гучных запэўніванняў і заклікаў, а К. Кірэенку, у творчасці якога пачынала наступаць сапраўднае суладдзе твораў адкрыта публіцыстычных і вершаў з ярка выяўленым лірычна-пачуццёвым пачаткам. Гэтае пашырэнне творчага дыяпазону паэта адбывалася паступова, аўтар «непрыспешваў» сябе. Кнігі «Вернасць», «Смага» (прысуджана Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы), «Цёплая радуга»... Крок за крокам да самабытнасці.**

**«Пацяпленне» ў творчасці К. Кірэенкі завяршылася ў «Кнізе ста песень», адзначанай Дзяржаўнай прэміяй БССР. Надзіва ўразіў паэт гэтымі сваімі творамі. Як абнадзеіў: творчы арсенал яшчэ багаты, у**

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР*

# ЖУРБА І БОЛЬ ТВОЙ, СВЕЦЕ ЯСНЫ...

З вершаў таго ці іншага паэта мы можам вынесці меркаванне аб тым, якой пары сутак або часіне года ён аддае перавагу. І справа тут не толькі ў свядомым выбары, прыхільнасці ці звычцы. Проста той ці іншы час найбольш дакладна і поўна адпавядае яго характару, светаўспрыманню, адчуванням, спосабу жыцця, адным словам — натуры. А яшчэ, думаецца, ёсць тут пэўная сувязь і з лёсам мастака.

Як прыкмеціў калісь М. Стральцоў, у вершах Максіма Багдановіча шмат начных пейзажаў. Самотны маладзік прасвечвае праз туман, нібы высвечваючы шлях паэта, кідаючы бледны водбліск на яго жыццёвую драму.

У самога Міхася Стральцова ўлюбёны час — пераходны: восень, адвячорак. Відаць, менавіта на яго балеснай адгукалася душа, спазнаўшы штосьці роднае сабе. Але не толькі суладнасць уласнага душэўнага стану з прыродным знойдзем мы ў вершах Стральцова. Ягоны лірычны герой не жадае прыняць прадвызначанасць лёсу. І ў час, «калі зімовае завеі крадзецца подых за спіной», і ў «спусташэння шэры час».

«Азалелы» час, калі сірацее не толькі душа, але і навакольны свет, лепш назваць бясчассем.

Калі працяг халодзіць вочы,
Калі такі падшэрхлы дол,
Калі такая ўжо сірочасць,
Такая жальба навакол,
Калі, як лісце, абтрасаеш
Гады на золкім рубяжы,
Калі да болю адчуваеш,
Як многа лішняга ў душы.

І нездарма ўсё-такі гэты час названы паэтам «часам трывання і надзеі».

Калі я думаю, пра жыццё і творчасць Міхася Стральцова, я згадваю адзін з яго празлівейшых, тужліва - прасветленых вершаў — «Вечаровы ўспамін пра Сож». Гэты верш не быў уключаны аўтарам у апошнюю кнігу, хоць некаторыя іншыя вершы з папярэдняга зборніка ўвайшлі туды. Я думаю, невыпадкова.

Верш названы ўспамінам, а ў гэтым успаміне—маленне аб дні заўтрашнім. Пакаранне, якім грозіцца паэту лёс, выглядае як дараванне. Так усё складана і драматычна сплятаецца ў гэтым вершы.

— Я пакараю, так і быць,
Цябе на бераг той вяртаннем.
Дык выбірай ці дзень, ці ранне,
Ды бойся смутку і жальбы...
Я пакараю, так і быць.

Усемагутны голас, староннi «дробным» чалавечым пакутам, халодна-памяркоўны, гучыць як папярэджанне. Ён кантрастуе з тым па-людску безабаронным, адкрытым голасам аўтара, з яго маленнем-літаннем, у якім і разуменне, і прабачэнне, і надзея. Напэўна, у такія хвіліны, як тая, што дайшла да нас, замацаваная ў цудзе мастацтва, абвастраюцца ўсе пачуцці і нейкім шостым пачуццём адчуваецца тое, аб чым не можа сказаць розум.

Прадчуванне гэта ці прадбачанне? Назаві як хочаш. І чакае, чакае ля берага Сожа паром, як човен Харона...

У апошняй сваёй кнізе, названай гэтак празрыста і журліва — «Мой свеце ясны», — паэт усё ж такі вернецца на той прадчуты заманлівы бераг, дзе сыходзяцца пачатак і канец. Прыйдзе з удзячнасцю і віной пакланіцца роднаму свету, якому абавязаны ўсім існым, якому і жыццё аддаць — не найвышэйшая цана. Таму што сведкі той сустрэчы-развітання — Сусвет і Вечнасць.

Стаяў і я на гэтай кручы:
Бы звон, быў дзень — каціўся
Сож
Туды, дзе гэты бераг злучан
З маленствам,— тым, што
басанож,
З парою той, якою далі
Сваю сінечу і смугу
На развітанне мне аддалі —
Аддаць назад ім ці змагу?

Мой свеце ясны, мой свеце любы! Як жа, як аднавіць цябе, калі ты прыходзіш з памяці і адыходзіш у прасцяг?! Развейваешся, як светлы дым над бацькаўшчынай роднай.

Нялітасцівы час. Нетрывалась імгнення. Прывіднасць і туга ўспамінаў.

Паэт хацеў вярнуць свет свету, вярнуць спаўна ўсё ўзятае калісь, усё, аж да «голасу дрыжання ў словах — родны, дарагі». Ці пасільная гэта задача для мастацтва, якое жывіцца «мінулымі імгненнямі», якое

Нота, што адлучана ад спеву,
Плынь ракі, што сталася ільдом,
Контур голля на бязлістым
дрэве?..

Кожны мастак адкрывае для сябе нанова сутнасць свайго прызначэння. Не ў тэарэтычных разважаннях, не апрыёры — сам-насам са светам, у сумненнях, пакутах, разгубленасці і нават адчаі. Сапраўдны паэт не засцярожаны і ад крызісных момантаў, калі падступае роспач, калі ён стаіць перад выбарам. Маральныя каштоўнасці заўсёды ў станаўленні. Бяссілле слова перад жыццём. Аднак і збедненасць, убоства жыцця без слова. Як рассекчы гэты гордзіеў вузел?

 

*Проза*

Раіса БАРАВІКОВА



# ПЕРАКРЫЖАВАННЕ-777

**ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ**

...І пайшоў Ён на крыжавыя дарогі ў глухую ноч, і выйшаў да яго Д'ябал, і сказаў: «Распішыся крывёю, таму што за ўсё, што я табе дам, трэба заплаціць душою...»

(З народнага павер'я).

ПРОНТ пацягнуўся ў крэсле, яму здавалася, ён задрамаў, але крокі Кранта прымусілі хутка азірнуцца:

— Ну, што Цэнтр?! Сувязь была чыстай?

Крант пасміхнуўся. Гэта быў высокі чалавек, а можа, толькі выгляд чалавека, пра гэта нікому не дадзена ведаць,і сказаў проста, звычайна, як гавораць на Зямлі:

— Трэба вяртацца! Цэнтр незадаволены і мяркуе, што мы марна працім час... — ён падумаў. — А можа, ёсць новы маршрут?..

— Наконт часу ты дарэмна, — нібыта спрабаваў апраўдацца Пронт. — Успомні тую дзяўчыну... Яна ўжо гатова была пайсці на кантакт!

— Глупства! — Крант сеў у суседняе крэсла. — Кантакту не атрымалася... Мы вярнулі ёй каханага, і яна стала непрабіўной сцяною. Яе мозг не ўспрымаў нашых сігналаў. Яна слухалася толькі яго!.. Дык навошта нам вісець над гэтым клятым перакрыжаваннем! Цэнтр мае рацыю!.. Мы павінны вярнуцца на Цнуну.

Ён узяў карту, і там, дзе стаялі тры лічбы «777», паставіў крыж. Потым павярнуўся да Пронта:

— Трэба зрабіць кантрольную праверку на караблі, і калі ўсё будзе ў норме, рушым да Цнуны!

— Чакай... Зірні на экран!.. Гэтаму няшчаснаму, напэўна, патрэбна дапамога!

Экран быў насупраць, і калі б гэта было ў кватэры, на Зямлі, дык можна было б падумаць, што пачынаецца фільм. Вось ён, галоўны герой, спыняецца на перакрыжаванні, выцягвае з кішэні лёгкай курткі цыгарэты, потым запалкі... Цемра ўспыхвае яркім агеньчыкам... Чатыры вуліцы разбягаюцца ў розныя бакі, і, закурыўшы, чалавек ідзе па адной з іх... Зусім недалёка лавачка. Там аўтобусны прыпынак. Чалавек садзіцца на лавачку. Курыць... Чакае аўтобуса...

Крант узіраецца ў твар чалавека:

— Ты сказаў праўду, яго нешта гняце... — ён яшчэ падумаў, потым дадаў. — Гэта нас доўга не затрымае... Паспрабуй падключыцца...

Пронт засмяяўся. Так смяюцца, калі прадчуваюць удачу. Лёгкім рухам ён націснуў на кнопку побач з экранам. У кабіне карабля пачуліся ціхія роўныя сігналы...

— Ніякіх высокіх матэрый... Гэты няшчасны думае пра адпачынак. Але ён адпачываць не будзе. Жонку з дзецьмі завязе да сваіх бацькоў, а сам паспрабуе пад-хал-турыць...

Цяпер ужо засмяяўся Крант:

— Яму патрэбны грошы!.. Мяне заўсёды палохалі цывілізацыі з нізкім узроўнем. З дробязнымі запатрабаваннямі. Быт перашкаджае прагрэсу... Гэта вядома кожнаму на Цнуне з часоў старажытнасці.

— Не разважай... Ён паддаецца кантакту, і мы дамо яму тое, што ён хоча!

Пронт хутка падняўся з крэсла, падышоў да сцяны, якая нагадвала электроннае табло, і націснуў на чырвоную кнопку...

Крант глядзеў на экран. Да лавачкі, на якой сядзеў чалавек, пад'ехаў аўтобус, і той ускочыў у яго, радуючыся, што паспеў на гэты, напэўна, апошні рэйс...

МІКОЛА ІВАНЁНАК вяртаўся дадому позна. У гэтым годзе яму далі адпачынак летам, і, каб не малы Уладзік, можна было б паехаць куды-небудзь на поўдзень, неяк бы выкруціліся з выдаткамі, ды куды ж тут паедзеш! Малому толькі тры месяцы, ды і старэйшай чацвёрты годзік... Пра поўдзень няма чаго і думаць, а вось у Верыных бацькоў з дзецьмі будзе самы раз! Хай пажывуць месяц у вёсцы, — разважаў Мікола, — а я далучуся да Колесеня, той набірае брыгаду, і папрацую ў калгасе, на будоўлі (хаця што там будуецца, ён і сам яшчэ добра не ведаў). Галоўнае, Колесень сказаў: «Рыхтуйся. Ёсць работа!» Сёння вечарам ён і паехаў да яго, каб усё высветліць. Тры гадзіны чакаў, а Колесень дома так і не з'явіўся. Жонка адно адказвала: «Недзе бадзяецца!» І нейкае сумненне ўзяло Іванёнка, можа, дарэмна ўвязаўся ў гэту справу, але ж наколькі ён ведаў Колесеня, не такі той чалавек, каб гаварыць пра пустое... Напэўна, таксама недзе па справе адлучыўся, як і ён у гэты вечар. Мікола падыходзіў да дома, у якім жыў, правёў вачыма па вокнах сваёй кватэры: там было цёмна, напэўна, спяць, і прыспешыў крок, таму, калі ўвайшоў у кватэру, трошкі пастаяў у парозе, каб аддыхацца.

— Мікола, ты? — жонка яго чакала і цяпер не хавала раздражнёнасці. — Толькі прашу, не палі святла! Зараз пачнеш бразгаць на кухні... Калі ж, нарэшце, можна будзе заснуць спакойна?!

І Мікола гатовы быў адказаць ёй:

— А што ж, мне галодным класціся?! Вядома, пайду на кухню і, калі трэба, буду бразгаць, ды і не так часта я прыходжу дадому позна. — Але нейкі голас гаварыў яму адваротнае: ты — вінаваты, ты не папярэдзіў яе, што вернешся позна, яна стамілася, яна мае права на любы папрок, таму супакой яе, ціхенька прайдзі на кухню. І Мікола, паддаючыся гэтаму голасу, сказаў амаль шэптам:

— Спі... не звяртай на мяне ўвагі, я і есці не хачу, чаго мне ісці на кухню, толькі распрануся.

Ён сцягнуў з плячэй куртку, павесіў на вешалку, сунуў у кішэню ключ і... здзівіўся. Ён яшчэ не ведаў, што там, але рука ўпёрлася ў нешта даволі цяжкое і цвёрдае: нейкі брусок ці што? І Мікола выцягнуў тое, што здалося бруском, але, напэўна, не было ім. Каб не паліць святла ў вітальні, пайшоў у ванную, запаліў святло і... разгубіўся. У руцэ ён трымаў пачак... сторублёвак, шчытна сцягнуты паперкамі. Такія пачкі ён бачыў у ашчаднай касе. На паперыне, якая абкручвала пачак, значылася: 10000! Мікола не верыў сваім вачам: адкуль у кішэні гэтыя грошы? Можа, не сваю куртку апрануў? Кінуўся ў вітальню, схапіў куртку, вярнуўся ў ванную... Куртка была яго. Яго куртка! Вывернуў кішэню, палез у другую, стала горача... Адтуль таксама выцягнуў пачак... яшчэ 10000! У скронях загуло... Мікола не быў сквапным чалавекам і зараз усяго яго працінала адна думка: адкуль узяліся яны?! Дзіва-дзівам, як нейкае ачмурэнне! Ён абапёрся аб вушак, ліхаманкава думаў... Выйшаў з тралейбуса, перасек вуліцу, каб перасесці ў аўтобус... Даставаў цыгарэты з кішэні, ніякіх грошай не было, нават пачак цыгарэтны выкінуў узяўшы апошнюю цыгарэту... А запалкі вось яны, у гэтай кішэні, і тут таксама было пуста...А можа, мне толькі так здаецца?! Ён памацаў пальцамі, грошы аддавалі халадком. Трэба сказаць Веры, трэба паказаць ёй, але нейкі голас варухнуўся ў ім: навошта табе трывожыць яе? Пра гэтыя пачкі ты зможаш сказаць ёй і заўтра, лепш ідзі спаць, а раніцай на свежую галаву, можа, нешта праясніцца, хоць падсвядома ведаў, што ніякага праяснення не будзе... Як не сваімі рукамі паклаў пачкі ў кішэні, павесіў куртку на ранейшае месца і пачаў ціхенька распранацца...

Ужо калі ляжаў у ложку, зноў нешта затрымцела, запякло: «Што ж гэта? Адкуль узяліся пачкі?.. Гэтыя тысячы?!» Ён быў рэалістам, добра ведаў, што грошы не знаходзяць у кішэнях, калі іх туды не кладуць, і тут жа гэтыя думкі змяніліся іншымі: ну, што ты марна пакутуеш?! Што ты ўсё думаеш пра іх, калі не можаш знайсці адказу? Забудзь! Выкінь з галавы!.. Побач — Вера, у яе цёплае-цёплае плячо... Яна не спіць, ну, вядома ж, не спіць, толькі робіць выгляд, што заснула. У яе доўгія-доўгія валасы... І ўсё цела тоненькае-тоненькае, нягледзячы на нядаўнія роды... Ён прытуліўся вуснамі да яе пляча...

Калі заснуў, не помніў. Поўня ўжо выплывала з акна, ён і праваліўся, нібыта ў цемру аконнага праёму. А прачнуўся, як і не спаў. Плакаў Уладзік. Вера трэсла яго за плячо:

— Коля, уставай! Будзі Ніначку... Апрані і вядзі ў садзік! Нешта робіцца з малым, на момант суцішыцца і зноў, і зноў плача... Мо доктара трэба, ты як думаеш?

— Ён і ўчора плакаў, — адказаў Іванёнак. — А потым сціхнуў і нічога... Навошта спяшацца з доктарам?!

Ён прыўзняўся на канапе, адкінуў коўдру:

— Колькі часу?

— Ды кажу табе, уставай, — Вера калыхала Уладзіка на руках. — Ніначку не паспееш сабраць...

Мікола ўстаў, пацягнуўся, з суседняга, другога пакоя, адазвалася сонным голасам Ніначка:

— Мама, хачу піць!..

— Зараз... Зараз, дачушка!..— Вера пайшла на кухню.

Уладзік плакаў, і Мікола падумаў, што ён правільна вырашыў адвезці Веру да сваіх бацькоў, там дапаможа ёй маці, і, раптам, успомніў: грошы!.. Як ён можа спакойна думаць пра Веру, пра Уладзіка, пра бацькоў, калі з ім здарылася такая неверагоднасць!? А можа, ніякіх грошай і няма?! Можа, учора ад тлуму, ад стомы нешта ўявілася?! Ён хуценька выйшаў у вітальню, падышоў да вешалкі, тыцнуў рукою ў кішэню: грошы былі там! Хацелася сплюнуць.

Вера з кухні ішла ў пакой, дзе гукала і гукала яе Ніначка, несла кубак, і ўсё калыхала і калыхала Уладзіка.

— Дай кубак, я сам яе напаю... Ты ідзі ў той пакой, суцяшай малога...

Вера аддала яму кубак, і потым, праз хвілін дваццаць, сыходзячы з Ніначкай з ганка, ён нават неяк заспакоена падумаў: куды спяшацца, пра грошы можна расказаць Веры і вечарам, яна пачала б распытваць, і што сказаў бы ён... Сапраўды, што ён ёй сказаў бы?! Палез у кішэню пакласці ключ, а там: дзесяць тысяч, і ў другой таксама — столькі ж! Нешта заныла, заварочалася ў грудзях: а можа, усё гэта сон?! Ніначка тузанула яго за рукаў:

— Хачу на ручкі!..

Ён нахіліўся, паднімаючы яе, каленам адчуў пругкасць аднаго з пачкаў... «Расказаць пра такое каму, дык і паверыць цяжка!», але нешта супакойвалася ў ім, нешта адпускала, таму што, ідучы з садзіка да аўтобуснага прыпынку, ужо не адчуваў ліхаманкавасці ў думках... Галоўнае, не нервавацца! Ну грошы і грошы... Ён нават дастаў з кішэні пачак, перакінуў з рукі на руку... Чаму я павінен думаць, адкуль яны ўзяліся, знайшоў у кішэні, ну і знайшоў, у чужую я не залазіў... І ўжо, калі ехаў у перапоўненым аўтобусе, нават стала весела. Стаю, таўкуся, а мог бы і на таксі праехацца, пад'ехаў бы да самай прахадной... Выняў бы сторублёвую паперку, сказаў бы таксісту: «Здачы не трэба»! Што б ён сказаў, цікава... Узрадаваўся б!.. Гледзячы які, іншы б і здачу мог вярнуць, палічыўшы за ненармальнага, не стаў бы звязвацца!.. А можна было б і адпрасіцца на дзень у майстра... Кветак купіў бы Веры, і не нейкія там тры гваздзікі, а во-о столькі руж... Веры дваццаць восем, я ўзяў бы руж у тры, у пяць разоў больш... Зноў тое ж самае таксі... Пад'ехаў бы да пад'езда... Уварваўся б у кватэру з кветкамі і рассыпаў бы каля Веры па ўсёй падлозе... Збірайся, таксі ўнізе... Куды збірацца? У оперу!.. Вера яго завяла туды аднойчы, сказала, які ж ты гараджанін, калі ніколі не быў?! І пайшоў... І ўсё было добра: відовішча, потым буфет... У оперу!.. Дзе пакінуць дзяцей? — спыталася б Вера. У Валянціны Сямёнаўны, на шостым паверсе... Яны ўжо неаднойчы пакідалі на яе!.. Давалі па тры рублі за вечар, і была задаволеная, казала, от добра, дзве каробкі мармеладу куплю... Дык сёння можна было б і пяцьдзесят даць! Хай бы на ўсе купляла свой мармелад!.. Еш, Валянціна Сямёнаўна, ад душы!.. Але галоўнае кветкі... Пунсовыя ружы, а можа, лепш белыя?! І многа... многа, каб па ўсёй кватэры водар...

Мікола саскочыў з аўтобуса, нехта прывітаўся з ім, ён нават не зірнуўшы, кіўнуў у адказ, думаў пра сваё: «Дурань, як жа я ўчора напалохаўся!.. А чаго?! Яшчэ і Веры сказаць баяўся! А мог бы і выкласці на стол!.. Вось табе, дваццаць тысяч! Дзе ўзяў? Няхай застанецца маёй тайнай, галоўнае, я прынёс... аддаў!»

— Гэ-эй, Мікола, чакай!..

Ён азірнуўся. Даганяў Косця Чапец.

— Чуў ад хлопцаў, што ты з Колесенем у прырабаткі хочаш падацца?! Гэта праўда? Можа, і мне аформіцца з вамі? Га-а?! Будынііну сваю трэцяе лета дабудаваць не магу... Ужо не рады, што і ўзяў гэты ўчастак, а ўсё жонка!.. Мне і пад халеру не трэба, а яна — дача... Дача!.. Дзецям будзе. Ну, і што тут зробіш?! Улез! — як гакнуў Чапец.

Мікола ўздыхнуў.

— От гаваркі ты... Узяўся б перагаварыць, не перагаварыў бы!..

Чапец зарагатаў...

У прахадной Мікола схіліўся, каб паказаць пропуск, локцем адчуў пругкасць аднаго з пачкаў... А можа, не трэба было браць грошы з сабою? — чамусьці падумалася... Куртку ён скіне, а раптам нехта выпадкова пачне шукаць у яго кішэнях запалкі ці цыгарэты? І нешта зноў непрыемна варухнулася ў грудзях, нібыта ўжо нехта іншы пытаўся ў яго: «Дык адкуль жа ў цябе такія грошы?! Дзе ж гэта ты іх змог узяць?» Не буду скідаць куртку, цвёрда вырашыў ён. Халат апрану на яе, і, не чакаючы Чапца, пайшоў да свайго цэха...



 

# Высокая місія педагога

**Гутарка з Міхаілам Савіцкім**

**Не будзе памылкай назваць народнага мастака СССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і БССР Міхаіла Андрэевіча Савіцкага класікам выяўленчага мастацтва Беларусі. Ужо болей за дваццаць гадоў творчасць мастака застаецца ў цэнтры ўвагі ягоных калег па мастацкім «цэху», крытыкаў і проста аматараў мастацтва рэспублікі ды і краіны. Меней вядома грамадская дзейнасць Міхаіла Андрэевіча. Шмат намаганняў аддае сёння мастак школе. Бо, лічыць ён, лёс краіны залежыць ад таго, з якімі ведамі і мэтамі прыйдзе ў жыццё новае пакаленне.**

**У сваім выступленні на першым пленуме праўлення Беларускага фонду культуры М. Савіцкі гаварыў пра тое, што выхаванне — справа не адных толькі педагогаў, а ўсяго грамадства. І калі ў грамадстве паніжаюцца маральныя крытэрыі — гэта адразу ж адбіваецца на падрастаючым пакаленні.**

**Гэтую сваю думку мастак развівае ў гутарцы з няштатным карэспандэнтам «ЛіМа».**

**— Міхаіл Андрэевіч, чаго, на вашу думку, не хапае школе, каб выконваць сваю галоўную функцыю — рыхтаваць новае пакаленне да жыцця з усімі яго супярэчнасцямі і канфліктамі?**

— Прыгадваю школу, выседжванне на ўроках, і ў мяне міжволі нараджаецца аналогія з чытальнай залай бібліятэкі. Усе зацята паглынаюць інфармацыю. Такая сітуацыя цалкам задавальняе настаўніка, задавальняе і міністра асветы. Дзіця, седзячы за партай, чытае старонкі падручніка — на адным уроку па гісторыі, на другім па геаграфіі, на трэцім... Так, яно яшчэ і піша практыкаванні, сачыненні, рашае задачкі. Але і ў «чыталцы» таксама часта пішуць і рашаюць, так што атмасфера чытальнай залы бібліятэкі і школьнага традыцыйнага вучэбнага працэсу адзіная. Часам, праўда, цішыня парушаецца словамі настаўніка, які намагаецца жывым словам разнастаіць не заўсёды цікавае чытанне. Ці задавальняе сёння такая школа грамадства? Не, не задавальняе.

Бо дзіця выхоўваецца і развіваецца ў дзеянні: у гульні, у працы, у даступнай творчасці. А менавіта гэта школай на працягу дзесяцігоддзяў адкідаецца, як чужародны элемент. Зарыентаваўшы школу з самага пачатку на назапашванне навуковых ісцін, мы ніяк не можам уявіць яе іншай. Адсюль і прабуксоўка ўжо не першай школьнай рэформы. Па меркаванню нашых педагогаў, інфармаванасць сама сабою прадугледжвае выхаванасць і адукаванасць. Мы ўжо досыць напоўнілі нашу краіну знатакамі і начотчыкамі. Хопіць: настаў час адраджаць умельцаў, творцаў, мастакоў. Апасенне, што падобны падыход зменшыць навуковы патэнцыял грамадства, не мае падстаў.

**— Як вы расцэньваеце новаўвядзенне: навучанне з шасцігадовага ўзросту?**

— Мая ацэнка адмоўная, скажу адразу і дадам: зніжэнне на цэлы год дашкольнага перыяду выхавання і развіцця дзіцяці — гэта чарговая недарэчнасць Акадэміі педагагічных навук, якая скампраметавала сябе ўжо ў мінулым уласнай некампетэнтнасцю. Мы падышлі да разумення неабходнасці рэформы, але зноў кідаемся ў бездань пошукаў, блуканняў і абстракцый. Ранняе навучанне нарадзіла арганізацыйную сумятню. Я лічу, трэба злітавацца над дзяцінствам. Хіба ў дзіцячым садку дзіця не выхоўвалася, не развівалася, у тым ліку і абстрактна - матэматычна? Хіба там працуюць не тыя ж савецкія спецыялісты — педагогі і выхавацелі? Хіба не разумней было б пашыраць і ўдасканальваць дашкольную сістэму выхавання, уводзячы ў яе і пачатковыя элементы адукацыі?

Дашкольны перыяд выхавання — найлепшы час для паспяховага развіцця ўсіх якасцей будучай асобы, яе разумовых, практычных і мастацкіх здольнасцей. Час, калі інтэнсіўна пачынаюць фарміравацца маральныя ўяўленні, пачуцці і звычкі, складваюцца рысы характару, выпрацоўваецца эстэтычнае стаўленне да навакольнага свету. Наша задача — як мага даўжэй захаваць гэты непаўторны ў жыцці кожнага перыяд дзяцінства, узбагаціць яго яркім эмацыянальным зместам, які дазваляе развіць нагляднa-вобразнае мысленне, творчае ўяўленне і фантазію. Запомнім, што ў ВНУ ніхто ні гуляць, ні маляваць, як гэта ўмеюць рабіць толькі дзеці, не будзе.

**— Рэформа прадугледжвае эстэтычнае выхаванне і мастацкую адукацыю, але на справе пакуль што ўсё застаецца па-ранейшаму.**

— Эстэтычнае выхаванне — гэта ахілесава пята нашай адукацыі. Менавіта пачынаючы са школы ў нас стойка захоўваецца рэшткавы прынцып фінансавання на культуру, прыгажосць, эстэтыку. Школа не бачыць патрэбы навучаць будучага грамадзяніна і працаўніка асновам мастацтва. Лічыцца што гэта — дробязь, само па сабе прыкладзецца. Сам, маўляў, навучыцца даступным уменням і навыкам мастацтва, а праз іх і здольнасці разумець высокапрафесійную творчасць, шэдэўры, створаныя многімі пакаленнямі мастакоў. І не разумеюць іншыя арганізатары асветы, што без эмацыянальнага, эстэтычнага немагчыма ні фізічнае, ні працоўнае, ні маральнае, ні патрыятычнае, ні якое іншае выхаванне.

Чалавек — не камп'ютэр, якога можна запраграмаваць і прымусіць працаваць ягоныя блокі памяці. Чалавек запомніць тое і надоўга, што пройдзе праз яго сэрца, закране яго пачуцці і розум. Элементарна гэта называецца цікавасцю. Нецікавае, незаймальнае, што не выклікае ўвагі, не пранікне ў памяць. Гэта прапісныя ісціны.

**— Здаецца, у новым навучальным годзе ў школьнай праграме з'явіцца новы прадмет — эстэтыка...**

— Гэта ўвогуле абсурд. Зноў жа замест справы — навука, замест выхавання — нудная, незразумелая апавядальнасць, хоць і пра цудоўнае. Эстэтыка — гэта даволі складаная навука, даступная на этапе вышэйшай адукацыі. Настаўніку гэтая навука патрэбна абавязкова, але яна ж не выкладалася ў педінстытутах і невядома, ці будзе выкладацца.

Каму збіраюцца даручыць выкладанне гэтай «прыгожай» навукі? Сёння грамадства не мае неабходнай колькасці спецыялістаў, здольных даступна і, значыць, цікава выкладаць яе. Дарэмныя спадзяванні, што ў школу пойдуць мастацтвазнаўцы. Застаецца адно — «нагрузіць» настаўнікаў. А ў выніку эстэтыка будзе ўсяго толькі дадаткам да фізічна-матэматычных «гігантаў».

Школа катастрафічна адчувае патрэбу ў кваліфікаваных выкладчыках выяўленча-графічных дысцыплін. Нельга гэты голад кваліфікаваць як вынік недастатковай падрыхтоўкі іх у навучальных установах. У рэспубліцы ў нас дзве навучальныя ўстановы — Віцебскі педінстытут (факультэт мастацка-графічны) і Мінскае мастацкае вучылішча — даўно рыхтуюць спецыялістаў. Але яны ў школах не затрымліваюцца.

Вось адзін з фактаў. Мне даводзілася вывучаць становішча з выпускнікамі віцебскага мастацка - графічнага факультэта. У адным выпуску са 100 выпускнікоў засталося працаваць у школе два.

Чаму мастакі-педагогі не ідуць у школы? Даўно трэба Міністэрству асветы гэтае пытанне вывучыць. Даўно ўжо трэба навучаць дзяцей асновам малюнка, жывапісу, скульптуры, дызайна, ужытковых мастацтваў. Як гэта робіцца ў Японіі, дзе штодня дзеці займаюцца творчасцю, дзе ўжо ў школьным узросце яны працуюць на прыродзе, на пленэры. Мне расказваў мастак Барыс Неменскі, які вывучаў вопыт нашага ўсходняга суседа: «Запрасілі мяне на ўрок біялогіі. Выкладчыца каляровай крэйдай намалявала на дошцы астры і так, што мне, мастаку, стала няёмка за сваю няўпэўненасць, што я здолею вось гэтак. Проста на вачах у дзяцей».

**— Як вядома, Японія пераняла нашу канцэпцыю мастацкай адукацыі, што была распрацавана ў 1918 годзе камісіяй пры актыўным удзеле А. Луначарскага, Н. Крупскай і І. Грабара...**

— ...вось толькі ў нас гэта сістэма не прыжылася. Мы не можам нават вартую праграму прыняць. Акадэмія мастацтваў, не ўнікаючы глыбока ў дзіцячую ўзроставую псіхалогію, спрабуе навязаць прынцыпы прафесійнай школы. У праграме, распрацаванай Акадэміяй педагагічных навук, шмат элементаў спантаннасці. Таму яна амаль непрымальная. Шлях спантаннай творчасці (г. зн. свабоднага, без адпрацоўкі практычных прыёмаў рэалістычнага выяўлення) нічога агульнага са школай не мае і прынесці карысці не можа. А вось шкоды — дастаткова.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Ненавучаны элементарнай грамаце «мастак» у 10—12 гадоў пачынае разумець, што ранейшыя вобразы, якія яго задавальнялі, нічога агульнага з рэальнымі прататыпамі не маюць. Зрабіць іх падобнымі, як гэта ён бачыць у карцінах прафесіяналаў альбо ў натуры, ён не можа. Расчараванне непазбежнае.

Прыкладаў шукаць не трэба. Яны ў кожнага з нас, хто прайшоў школу, якая ігнаравала кваліфікаванае выкладанне малюнка, жывапісу, кампазіцыі. Бо цвёрдае перакананне, што бытуе ў нашым грамадстве, нібыта маляваць можна навучыць не ўсіх, не што іншае, як вынік работы школы, яна ігнаруе (бо так прасцей) элементарную выяўленчую грамату. Не ўсіх можна навучыць быць мастакамі. Не ўсе ж пісьменнікі, хоць усе пісьменныя.

Захоўваць і далей такую практыку — недапушчальна. Неабходна рашуча зламаць ранейшыя шкодныя стэрэатыпы і ў пытанні ўсеагульнай выяўленчай адукацыі. Школа абавязана не толькі захаваць, а і развіць у кожным дзіцяці яго прыродны мастацкі талент. Акадэмія мастацтваў, Саюз мастакоў павінны прыняць самы актыўны ўдзел у стварэнні дзейснай праграмы, у прыцягненні да яе рэалізацыі кваліфікаваных педагогаў.

Ніякая праграма, ніякі заклік, якія б добрыя яны ні былі, не вырашаюць праблемы адукацыі і эстэтызацыі асветы, пакуль у школу не прыйдзе мастак, падрыхтаваны спецыяліст, чалавек, які разумее сваю місію педагога, місію вялікай дзяржаўнай важнасці.

**Гутарку вёў І. КАЛЕНІК.**

*Думка чытача*

# Іронія—не аргумент...

**14 кастрычніка «ЛіМ» змясціў артыкул Н. Госцевай «І ўсё накшталт гэткага» пра спектакль «Клоп» Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР. Для Н. Госцевай «Клоп» стаўся нечым накшталт кепскага жарту рэжысёра В. Цюпы, які не толькі стварыў бяздарны спектакль, але і пахіснуў піетэт перад У. У. Маякоўскім. На пачатку артыкула яго аўтар задае пытанне: «А чаму б Зоі Бярозкінай не застрэліцца ў канцы вяселля Прысыпкіна і Эльзевіры, дарэчы, заадно ўжо і ў канцы спектакля (як гэта ў В. Цюпы), а не да таго (як гэта ў У. Маякоўскага)? Калі гэтак зручней, чаму б і не?»**

**Ну, па-першае, не ў В. Цюпы, а ў В. Дашкевіча і Ю. Кіма, аўтараў фольк-оперы «Клоп». А па-другое, ім гэтак і на самай справе зручней. Калі ўжо Н. Госцева ўзяла на сябе смеласць пісаць пра спектакль музычнага тэатра, дык яна магла б хоць крыху нагрузіць сябе чытаннем адпаведнай літаратуры. У адной з такіх «патрэбных» кніг яна б пазнаёмілася, напрыклад, з меркаваннем музыказнаўцы Т. Кудзінавай наконт жанру мюзікла, да якога блізкая фольк-опера «Клоп». «Разыходжанні з арыгіналам — п'есай і раманам — тут непазбежныя, — піша Т. Кудзінава. — Саюз з музыкай значыць умяшальніцтва музычных нумароў у мэтанакіраванае развіццё п'есы. Ён мае на ўвазе крыху іншую трактоўку тэмы і вобразаў; у характарах узбуйняюцца рысы, падуладныя стыхіі музыкі, на першы план вылучаюцца сітуацыі, зручныя (падкрэслена мною. — В. Б.) для музычнай інтэрпрэтацыі». Заўважце, менавіта зручныя. А і праўда, чаму б, напрыклад, Элізе Дулітл не пайсці да д'ябла ад гэтага самадура Хігінса, як гэта ў Б. Шоу ў «Пігмаліёне»? Дык жа не! У мюзікле Ф. Лоу «Мая цудоўная лэдзі» яна, дурніца, да яго вяртаецца. І чаго гэта? А што сказаў бы У. Шэкспір, даведаўшыся, у што ператварылася ягоная «Рамэа і Джульета» ў «Вестсайдскай гісторыі» Л. Бернстайна?! Але аўтарам названых мюзіклаў захацелася напісаць іх менавіта гэтак, як яны напісалі, а не інакш. У іх, відаць, былі на тое свае меркаванні. Сваімі меркаваннямі кіраваліся і В. Дашкевіч з Ю. Кімам, адыходзячы ад Маякоўскага і трактуючы вобраз Прысыпкіна па-свойму. Яны мелі на гэта поўнае права.**

**Але не толькі «крымінальныя адвольнасці» аўтараў «Клапа» ў дачыненні да У. Маякоўскага не даспадобы Н. Госцевай. Для яе непрыемны спектакль наогул — і ягоная рэжысура, і сцэнічнае афармленне, і ігра акцёраў: Н. Госцева не ўспрымае яго ўсур'ёз і таму для свайго артыкула выбірае не інакш як з'едлівы, кплівы тон. Іронія, аднак, зусім не з'яўляецца аргументам у спрэчцы, а рэакцыя раздражнёнасці на штосьці не павінна быць адзінай падставай для таго, каб брацца за пяро.**

**В. БРЫЛОН,**
**студэнтка БДК.**

**Ад рэдакцыі.** У каментарыі аддзела музыкі «ЛіМа», які суправаджаў публікацыю Н. Госцевай, гаварылася, прынамсі, пра заканамернасць супярэчлівых уражанняў і вагання думак, што выклікае спектакль «Клоп». Твор жа новы, напісаны спецыяльна для мінскай сцэны, не мае шлейфу з аўтарытэтных меркаванняў і ацэнак. Свае ўражанні ад спектакля Н. Госцева паспрабавала аформіць у рэдкім сёння жанры тэатральнага фельетона, а ён існуе і ўспрымаецца па іншых законах, чым звычайная рэцэнзія ці артыкул. Іронія, сапраўды, не аргумент у спрэчцы ці ў музыказнаўчым даследаванні. Але ў фельетоне іронія—асноўны «будаўнічы матэрыял». На жаль, В. Брылон памыляецца, называючы публікацыю Н. Госцевай артыкулам. «І ўсё накшталт гэткага» — не артыкул, што зробіш: аўтару захацелася напісаць менавіта гэтак, а не інакш, яна мае права на ўласную думку і на выбар жанру. Разам з тым В. Брылон слушна крытыкуе памылковасць зыходнай пазіцыі сваёй апаненткі, якая папракае спектакль у тым, што гэта, маўляў, не Маякоўскі. Сапраўды, пры перакладзе твораў з мовы аднаго віду мастацтва на мову іншага разыходжанні з арыгіналам непазбежныя. Галоўнае, што з іх атрымаецца: новы мастацкі вынік ці недарэчнасць?

## «ЛіМ» паведамляе

# У Саюзе тэатральных дзеячаў БССР

**З пачаткам новага тэатральнага сезона актывізавалася дзейнасць грамадскіх камісій і секцый СТД. Адбыліся пасяджэнні камісій па драматургіі і тэатру, тэатральнай адукацыі, музычнаму мастацтву, секцыі сацыялогіі, дзе абмяркоўваліся пытанні творчай і арганізацыйнай дзейнасці ў новым годзе.**

**Секцыя тэатра лялек і ТЮГа правяла семінар «Эстэтыка сучаснага спектакля для дзяцей» у Вільнюсе. Акцёры Брэсцкага тэатра лялек сустрэліся з вільнюскімі калегамі. У праграме семінара — прагляд спектакляў, абмен думкамі наконт праблем сучаснага лялечнага мастацтва.**

**Свой выязны семінар у Таліне секцыя музычнага мастацтва прысвяціла 150-годдзю з дня нараджэння М. Мусаргскага. У абмеркаванні на тэму «Гістарычныя погляды кампазітара і іх пераламленне ў оперы «Хаваншчына» прынялі ўдзел С. Картэс, М. Калядка, С. Штэйн, М. Ізворска-Елізар'ева, Н. Ламановіч, Т. Шчарбакова, Р. Аладава, І. Глушакоў, мастацкае кіраўніцтва Акадэмічнага тэатра «Эстонія» і ўдзельнікі спектакля «Хаваншчына».**

**Секцыя крытыкі і тэатразнаўства правяла абмеркаванне рэпертуару Рэспубліканскага ТЮГа, а таксама прыняла ўдзел у выязным пасяджэнні прэзідыума праўлення СТД у Магілёўскім абласным драматычным тэатры.**

**Мастацкі савет эксперыментальнага тэатра - лабараторыі «Шанц» працягвае абмяркоўваць заяўкі. А права адкрываць афішу «Шанцу» прадастаўлена рэжысёру-стажору ДАВТ БССР С. Цырук, якая пачынае працу над спектаклем «Пра тое, як пан Макінпот ад сваіх бед пазбавіўся» П. Вайса.**

**З 10 па 20 снежня праходзіць агляд тэатраў-студый Мінска «Давайце знаёміцца». У ім удзельнічаюць такія калектывы, як «Дыялог», «Круг», «Дзе—я», тэатр-студыя на плошчы Перамогі і іншыя. Вынікі агляду будуць падведзены на заключнай канферэнцыі.**

**21 снежня адбудзецца пленум праўлення тэатральнага саюза з парадкам дня «Стан прафесійнага і ідэйна - маральнага выхавання творчай моладзі. Задачы СТД БССР».**

**В. ШЫМАНОВІЧ,**
**старшы кансультант СТД БССР.**

# «Юнацтва»— Дзіцячаму фонду

**Супрацоўнікі і аўтары выдавецтва «Юнацтва» пералічылі ўжо ў Савецкі фонд міру, фонд Чарнобыля тысячы рублёў. З часу стварэння Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна не прайшло яшчэ і года, але клопат аб умацаванні яго матэрыяльнай базы з боку «Юнацтва» таксама ўжо адчувальны. У прыватнасці, на рахунак фонду перавёў 2325 рублёў Э. Скобелеў — аўтарскі ганарар за кнігу «Сегодня исповедь моя».**

**Толькі што ўбачыла свет маляўнічая кніжка «Мая рэспубліка», прысвечаная 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі. У яе ўвайшлі публіцыстычнае слова І. Шамякіна, вершы М. Танка, П. Панчанкі, А. Вялюгіна, А. Грачанікава, В. Зуёнка, У. Карызны, В. Лукшы, С. Шушкевіча і іншых. Аўтарскі ганарар у суме 870 рублёў за гэтую кніжку таксама пералічаны на рахунак Дзіцячага фонду.**

**У 1990—95 гадах з эмблемай Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна ў «Юнацтве» будуць выдадзены кнігі: зборнік «Беларускія народныя казкі», «Міхасёвы прыгоды» Я. Коласа, «Сын вады» Я. Маўра і інш. Сродкі са спецыяльна ўстаноўленага наміналу на гэтыя выданні таксама будуць пералічаны ў дзіцячы фонд.**

**Т. СЯБЕЖКА,**
**старшы рэдактар выдавецтва «Юнацтва».**

## Кіно

# «Мама! Я «любера» люблю!»

**На экраны рэспублікі выйшаў і адразу ж выклікаў спрэчкі фільм рэжысёра Валерыя Рыбарава «МЯНЕ КЛІЧУЦЬ АРЛЕКІНА». Дыялог пра новую стужку «Беларусьфільма» вядуць кінакрытыкі М. ЗАЙЦАВА І А. СІЛЬВАНОВІЧ.**

**Алег Сільвановіч.** Апошнім часам, калі на нашых кінаэкранах усё часцей пачалі з'яўляцца фільмы пра так званую «небяспечную» моладзь, ці не «першым сярод роўных» у іх шэрагу стаўся фільм Рыбарава. (Заўважу, дарэчы, што сёння «спраўнаму» падлетку цяжка разлічваць на ўвагу сродкаў масавай інфармацыі). Маладзёжныя фільмы кранулі і шмат эстэтычных праблем — адсюль і вядомы зварот старшыні Дзяржкіно СССР А. Камшалава да творчых работнікаў, сутнасць якога зводзілася да наступнага: сцэны жорсткасці і гвалту, што тыражуюць неспрактыкаваныя рэжысёры, часцяком ператвараюцца ў жорсткасць дзеля жорсткасці, гвалт дзеля гвалту і... дзеля таго, каб завабіць гледачоў у кіназалы. З'явілася небяспека ўзнікнення новай кан'юнктуры. Магчыма, кінематограф намагаецца неяк апраўдацца перад гледачамі за вымушаныя гады маўчання. Але ці не задужа моцна кінематаграфісты ўхапіліся за тэму, часта ніяк не асэнсоўваючы ў сваіх творах складанасць жыцця, яго жорсткасць і міласэрнасць? В. Рыбараў і ў папярэдніх сваіх працах галоўнымі героямі рабіў людзей маладых («Чужая бацькаўшчына», «Сведка»); праўда, «паглыбляючы» дзею ў мінулы час, вельмі дакладна рэканструяваны — даваенныя ці пасляваенныя гады. І штораз фільмы Рыбарава рабіліся падзеямі ў рэспубліканскім кіно.

Шмат каго з людзей, знаёмых з творчасцю Рыбарава, хваляваў зварот рэжысёра да часу цяперашняга. Але ці ўдалося Рыбараву зразумець і прадставіць на кінаэкране праблемы моладзі, выяўляючы іх сацыяльныя карані?

**Маргарыта Зайцава.** В. Рыбараў у адрозненне ад шмат якіх рэжысёраў паставіў перад сабою складаную і годную задачу—асэнсаваць сучасныя жыццёвыя сітуацыі. Аднак, на мой погляд, гэтага не адбылося. Чаму? Рэжысёр вельмі многае хацеў сказаць адразу. Ён спрабаваў пабудаваць сваю канструкцыю на супастаўленні катэгорый таго, што праходзіць, і адвечнага, сапраўднага і лжывага, мінулага і будучага. У выніку ж, па-мойму, не атрымалася ні сур'ёзнага аналізу сучасных сацыяльных язваў, ні глыбокіх філасофскіх абагульненняў. Для рэалізацыі філасофскай ідэі рэжысёр «размывае» часавыя межы: час у стужцы шматзначны, цыклічны, паўтараецца; суіснуюць, «напаўзаюць» адно на адно некалькі дзесяцігоддзяў, іх атмасфера. Згадай паводзіны світы Арлекіна ў час трыумфальнага шэсця, калі «вагонка» нясе ягоную сяброўку Алену на руках. Гэты вобраз, як мне ўяўляецца, — з рамантызму шасцідзесятых, часу маладосці самога рэжысёра.

Увогуле, героі фільма, падалося мне, не маюць канкрэтнага ўзросту — проста «юнакі, якія ўступаюць у жыццё». Рэжысёр спрабуе стварыць адчуванне з'яднання — «повязі» часоў, імкнучыся падкрэсліць, што ўсё гэта магло быць і ўчора, і заўтра. І тутсама, быццам на ўсё забыўшыся, пачынае збіраць у кадры прыкметы сённяшняга дня, прывязвае дзеянне да пэўнай часавай кропкі.

**А. С.** Аднак сцэна ў міліцыі пасля бойкі з «металістамі» дазваляе нам вылічыць ці не да паўгода ўзрост галоўных герояў, а разам з гэтым і час дзеяння! Акрамя таго, у фільме зашмат прыкмет васьмідзесятых гадоў: нефармальныя каманды, хэйві-метал, відэамагнітафон, фільм «Вуліцы ў агні», які цытуе Рыбараў...

**М. З.** Аднак канкрэтны рэальны час у фільме ніяк не хоча сплавіцца з часам гістарычным; замест жаданага сплаву ўзнікае эклектыка. А з правінцыяльнага юнака—вобраз правадыра «вагонкі», у якім ясна прачытваецца жыццёвая першаснова — «люберы». Такое ж адбываецца і з вобразам прасторы. Амаль пабудаваны да канца, ён раптоўна разбураецца самім рэжысёрам. (А выявіць гэты вобраз у фільме мусіць змаганне побыту і быцця!). Арлекіна, які намагаецца вырвацца з правінцыяльнай духаты, адчувае варожасць з боку закрытых прастораў: кватэры, у якой існуе, пакутуе, з якой марыць вырвацца; памяшкання склада, дзе адбываецца спазнанне жывёльных страсцей; пакоя, знятага Інтэрам для Алены і да т. п. — уся гэта абагульнена замкнёная, затхлая прастора цісне на героя, не дазваляе яму нават выпрастацца. І зусім іншая справа — прырода. Паветра, свабода, натуральнасць, прастора для руху! Ля рэчкі адбываецца высвятленне адносін паміж Аленай і Арлекінам, толькі тут магчыма каханне. І раптам (што для мяне зусім незразумела) — сцэна гвалтавання ўзнікае ў фільме менавіта на адкрытай прасторы. Значыць, і прырода варожая для героя?

**А. С.** Калі наследаваць тваёй логіцы, то якраз гэта і можна растлумачыць. Бо ў адкрытай прасторы Арлекіна дзейнічае па законах энергіі, акумуляванай ім з замкнёнай прасторы. Адкрытая прастора — не выратаванне героя, а месца барацьбы, змагання — няхай нават з самім сабой, са сваім унутраным «двайніком». Менавіта пасля сцэны гвалту робіцца магчымым гэтае раздваенне, пасля гэтага герой можа стаць Чалавекам, ачысціўшыся праз пакуты. Але можа і не стаць...

**У фільме Арлекіна часта паказваецца за металічнай сеткай, на скрыжаванні ржавых рэек і г. д. Ведаючы ўвагу творчага тандэма В. Рыбараў — Ф. Кучар (аператар стужкі) да выразнасці зрокавага вобраза, можна зразумець, што Арлекіна падаецца імі ўсюды на расцяробах, на скрыжаваннях, у стане пастаяннага выбару. Дзеянне — вось стыхія Арлекіна, і дзейнічае ён амаль інстынктыўна.**

**М. З. Ты закрануў вельмі важны элемент структуры фільма — вобраз дарогі. Рэйкі — таксама дарога, шлях. Гэта і жыццёвая сцяжына героя, і яго выбар, і сімвал руху. Усёй істотай сваёй ён паўстае супраць усяляніх «кратаў», «столяў», «парканаў» — абмежаванняў, бессэнсоўна імкнецца да руху. Але ж хто ён, гэты Арлекіна, чаму ён — менавіта Арлекіна? Тут выпадковасці быць не можа. (Магчыма, не абышлося без філасофскіх разважанняў Ф. Феліні?). Арлекін — рыжы клоун. Для свету прыстасаванцаў, ашуканцаў, хлусаў ад улады гэты клоун — злосны. Ён паўстае супраць іх несправядлівых парадкаў, ён бунтуе супраць іх знешне прыстойнага свету, супраць ягонай «бялюткасці», дабрачыннасці. Гэта вельмі ўдалая знаходка — імя героя, менавіта ў ім спалучаюцца канкрэтная сітуацыя і гістарычны час. Але, на жаль, у развіцці вобраза Арлекіна такога ідэальнага спалучэння прыватнага і агульнага больш не адбываецца. Пад знешняй сацыяльнай абазначанасцю вобраза, калі зняць рэжысёрскую «экіпіроўку», рэальных праблем не выявіцца. Толькі павярхоўная надзённасць, не больш. Не лямант пра сацыяльную няроўнасць, а гутарка на тэму няроўнасці эканамічнай. Хто такія ў фільме «людзі справы», залатая моладзь, татусевы сынкі? Звычайныя фарцоўшчыкі, дробныя зладзюжкі — тое ж дно, што і «вагонка»: адны жывуць «са свайго кулака», другія — з чужой кішэні. Вось і ўся розніца. І тыя і другія — вынікі сацыяльнай хваробы...**

**А.С.** Мне хацелася б крыху сказаць і пра акцёрскія работы. У вобразе Арлекіна, гэткага рэфлексуючага героя, Алегам Фаміным пададзены і складанасць, і супярэчнасць характару. Акцёр і рэжысёр ідэалізуюць і спалучаюць унутры аднаго персанажа дзве палярнасці: «незамутненае адчуванне» (так званы ўнутраны свет, сфарміраваны праз літаратуру, кіно шасцідзесятых і г. д.), сентыментальную меладраматычнасць, чысціню думак і парыванняў — і нястрымную злосць на ўсіх, хто не падобны да яго. Гэты дыяпазон асобы — акцёрская ўдача. Праз вобраз героя шмат што можна пераасэнсаваць і зразумець. Арлекіна выводзіцца рэжысёрам фігурай умоўна абагульняючай. Аднак, як і ў іншых фільмах розных гадоў, акцэнты на рысах, што вызначылі яе маштаб, зроблены традыцыйныя: неўладкаваны побыт, няпоўная сям'я, спрадвечнае пытанне — няўжо вось так давядзецца пражыць усё сваё жыццё?! Акцэнты, як і рэжысёрскія назіранні, стэрэатыпныя, не даюць уяўлення пра сённяшнюю моладзь, яны сяк-так тлумачаць толькі яе супрацьстаянне навакольнаму свету. Аўтары быццам пераконваюць нас у тым, што з узростам усё пройдзе, і Арлекіна зробіцца звычайным чалавекам. Дый астатнія героі фільма не атрымалі ад аўтараў права на нейкую асэнсаванасць сваіх учынкаў. Усе іх матывы... ніжэй за дыфрагму... Згадаем тут рок-гурт «ДДТ» і радкі з песні яе лідэра Ю. Шаўчука: «...Он не панк, он не хиппи, он не хэйви-металлист. Он не «мажор», не «тусовщик», мама, он не буддист. Он не нюхает клей, он не курит траву, Он отделает любого теоретика кунг-фу. Мама!.. Я «любера» люблю!»

**У аснове вобраза Шаўчука — сфера свядомага інтарэсу. У той час як у фільме Рыбарава СВЯДОМАЕ непрыняцце моладдзю хвароб грамадства не пацвярджаецца. Перасадзіўшы падмаскоўных «любераў» на беларускую глебу (станцыя Парэчча, горад Гродна), аўтары фільма сцвярджаюць, што яе ўзнікненне — штосьці падобнае на моду, якая праходзіць, бо як быццам (паводле тых самых аўтараў) для яе існавання няма на Беларусі ніякіх каранёў, няма сацыяльнага надлому. І вось ужо нефармалы бадзёра маршыруюць па фільме, камера слізгае «адсутным поглядам», а сапраўдныя праблемы застаюцца за кадрам. Ці ж выкарыстанне маладзёжных праблем, найвострых праблем грамадства толькі як адмысловай аздобы для паказу меладраматычнай гісторыйкі не з'яўляецца кан'юнктурай?**

**М. З. Гэта не кан'юнктура. Рэжысёр проста не разлічыў свае сілы. Аўтары фільма пакінулі свае праблемы ў сацыяльным вакууме. Бо Арлекіна пакутуе не столькі ад сацыяльнай няроўнасці, колькі бездухоўнасцю акаляючага жыцця. Тут, дарэчы, вельмі цікавы вобраз Стася, які, праўда, існуе аўтаномна. Стась можа служыць апорай для кніжнага «юнака, які ўступае ў жыццё», але не для рэальнага правінцыяла, напалову крымінальніка. За вобразам Стася ўгадваецца духоўная гісторыя беларускага народа. Але адарванасць героя ад сённяшняга свету ў фільме падаецца як вышэйшае спазнанне жыцця, як спроба ўзняцца над несправядлівым укладам дзеля выратавання душы.**

**А. С. Вось яшчэ адзін прыклад адмаўлення аўтараў ад даследавання таго, што з намі на самай справе адбываецца. Бо Стась Пшаўлоцкі — фігура дакументальная — існуе ў гэтым жа сацыяльным вакууме, пра які ты толькі што гаварыла. Гэткі юрод з уласным разуменнем свету, атрыманым... аднекуль...**

**М. З.** Тым не менш, адвольна ці неадвольна, але ў фільме ёсць пацвярджэнне маёй думкі: у нас на Беларусі шмат у чым сацыяльныя праблемы існуюць самі па сабе, а нацыянальныя — каранёвыя — самі па сабе. Праблемы ж маладых рыбараўскіх герояў ляжаць па-за нацыянальным. Таму ўвод Стася ў праблемны публіцыстычны матэрыял у якасці панацэі ад усіх хвароб глядзіцца своеасаблівай ілюстрацыяй прымаўкі: клін клінам. Лячыць сацыяльную хваробу нацыянальнай самаўсведамленнем — занятак, па-мойму, безвыніковы.

**А. С.** Стась і Арлекіна — антыподы? Ці гэта часткі аднаго цэлага, у спалучэнні якога выйсце са складзенай сітуацыі? У фінале, калі помніш, камера ад'язджае ад Стася проста ў глядзельную залу, «дастаўляючы» да гледача крыху назалелую выснову выратавання душы праз нацыянальную духоўнасць. Але як можна злучыць тое, што не злучаецца, асабліва трактуючы свет маладзёжнага гвалту як рэч звонку, рэч запазычаную?

**Успомні ўсклікі «вагонкі» пры праглядзе баевіка на відэа: яны сведчылі толькі пра перайманне прыёмаў бойкі! Сацыяльны вакуум — страшная рэч у карціне. Там, на жаль, зніклі і ўсе цудоўныя намеры рэжысёра. Па-першае, на маю думку, ён недакладна арганізаваў рытм фільма: напружыў дзею ў першыя дзесяць хвілін і асудзіў сябе на пастаяннае нагнятанне дзеяння, каб пазбегнуць у ладзе карціны рытмавых правалаў. Тым не менш правалы існуюць, асабліва ў дыялогах Арлекіна з маці, з Аленай. Гэта вымушае рэжысёра ўводзіць ледзь не цыркавыя нумары ў вобразную тканіну твора: да прыкладу, нехта жуе для забаўлення «вагонкі» шклянку і да т. п. З-за рытмічных правалаў узнікае скорагаворка ў апавяданні, скорагаворка, якая перашкаджае нам прасачыць і вылучыць вельмі важныя моманты ў філасофскіх поглядах самога рэжысёра. Глядач нічога не паспявае асэнсаваць, бо вымушаны сачыць толькі за бойкамі, звадкамі, гвалтамі, ці толькі за перыпетыямі ўнутры любоўнага трохкутніка Арлекіна—Алена—Інтэр. А канфлікт жа паміж Арлекінам і Інтэрам мог бы быць вельмі глыбокім, не ператвараючыся ў сутычку двух самцоў...**

**М. З.** Дарэчы, ці не ў кожным з маладзёжных фільмаў сёння прысутнічаюць эратычныя сцэны ці сцэны фізічнага кахання, а то і гвалту. Са здзіўленнем пераконваешся, што большасць фільмаў фарміруе ў гледача да сексуальных эпізодаў негатыўнае стаўленне. Няўжо бруд «занатаваць» на стужку лягчэй, чым чыстыя шчырыя адносіны?! Я не хачу сказаць, што падобная сцэна з фільма Рыбарава непапраўна сапсуе маральнасць гледачоў; гэтая сцэна апраўдана, яе сэнс і значэнне для фільма ясныя. Справа тут, думаю, у тэндэнцыі, якая намецілася: «секс — любы і любым коштам», ад якой не менш шкоды, чым ад сарамяжлівага замоўчвання, як гэта было ўвесь папярэдні час.

**А. С.** Іншымі словамі, аўтары нашага фільма таксама засталіся на ўзроўні бурклівага ханжы: секс — блага, гвалт — дрэнна. Ну-ну-ну! А ўспомнім кінематаграфічны аналаг падобнай сцэны з фільма «Рока і яго браты» італьянскага рэжысёра Лукіна Вісконці. Там сцэна гвалтавання выклікала моцнае глядацкае спачуванне каханню герояў, нянавісць да гвалту. І не было там нават намёку на эратычную «малінку». Вядома, хтосьці з намі можа не згадзіцца, дый мне добра вядома, што фільм займеў шмат прыхільнікаў. Але, на жаль, абвешчаны з першых кадраў «палёт чалавечага духу» ў карціне Рыбарава не адбыўся... На жаль.

*Пошукі, знаходкі, версіі*

**Георгій КОЛАС**

# «...І ЗАСУМУЕЦЦА ПАТОМАК»

## 6. «Находите-ли Вы возможным...»

У Купалавым музеі захаваўся ліст ад І. Гурскага—Купалу, датаваны 13 красавіка 1942 г. (інв. № 479): «Паважаны Іван Дамінікавіч! Я цяпер на Калінінскім фронце, рэдагую ўноў арганізаваную газету «За свабодную Беларусь». У газеце працуюць Пятро Глебка, А. Кучар і Пімен Панчанка...». Далей было пра тое, на каго арыентуецца газета (партызанскія тылы і акупацыя), пра дадатковыя выданні (пракламацыі, лістоўкі), потым ён прасіў Купалу прысылаць якія творы: «Я думаю, што Вы зразумееце нашы самыя шчырыя жаданні і хутка прышляце прасімы матэр'ял». Аднак «прасімага» Купала Гурскаму слаць «хутка»—не спяшаўся, ліст застаўся без адказу. А не адказаў Купала (нагадаем)—аўтару артыкула «Клясавая барацьба ў мастацтве» (1931 г.), аўтару шматлікіх даваенных «звышідэйна-пралетарскіх» агіт-п'ес, начальніку Галоўмастацтва, Галоўрэперткома, гадаванцу Галоўліта, — галаве, якая ў 37-м габлявала нашу класіку, уводзячы ў «Паўлінку» горкаўскага «Сокала» (сааўтарскі тандэм: Купала—Горкі—Гурскі,—уявіце!)... Адным словам, Гурскаму Купала не хацеў адказваць.

Праміне два месяцы—Купалу піша Глебка (20.VI.1942 г., ЛМЯнК, № 472). Невядома, ці чытаў Купала гэтае пісьмо: яно было адпраўлена — за тыдзень да Купалавай трагічнай гібелі ў Пячышчы, а дайсці туды за тыдзень і адтуль прыйсці ў Маскву яно, напэўна, не паспела, але ж Глебка—сам паспеў прыехаць у Маскву, прыехаў—ці не спецыяльна да Купалы, меў з ім на працягу першых па сваім прыездзе (і апошніх для Купалы) сутак—дзве (ці тры?) сустрэчы — непасрэдна напярэдадні трагічнага здарэння,—і таму ягонае пісьмо як дакумент — здаецца мне намнога больш дакладным, верагодным і пераканаўчым, чым пазнейшыя ўспаміны Глебкі. Гэтае пісьмо напісана ў танальнасці страката-шчырай споведзі, і з-за яго «стракатасці» я не магу адважыцца на тое, каб у «шчырасці» лавіць «няшчырасць», толькі мушу цытаваць пісьмо, суправаджаючы ягоны змест пытаннямі: з чым ехаў да Купалы — Глебка?

**«20.VI.1942 г.**

**Дарагі дзядзька Янка!**

**Вось ужо год, як я не бачу Вас і не чую. Праўда, час-ад-часу чытаю ў друку Вашы вершы. Сёе-тое мне расказвалі пра Ваша жыццё. Але хіба-ж усё гэта можа замяніць жывую гутарку з Вамі альбо нават маўклівую сустрэчу...»**

**Першае пытанне — як каму, а мне пакуль няўцям: чаму такі сапраўдны, шчыры Глебкаў сум па дзядзьку Янку цэлы год дасюль — не праяўляў сябе? Чаму, прынамсі, мо два месяцы назад — адначасова з Гурскім — ГЛЕБКА САМ НЕ НАПІСАЎ КУПАЛУ?..**

**«О, як хацелася б пабачыцца з Вамі, пасядзець, выпіць па чарцы, пагаварыць, павалачыцца за добрымі дзяўчатамі...»**

**Вядома, гэта жарт, разлічаны на ўсмешку, — калі дзядзька Янка будзе цётцы Уладцы ўслых чытаць далей: «Вітайце ад усіх нас Уладзіславу Францаўну» (прабачце за міжвольны «каментарый»).**

**«Як далёка цяпер усё гэта прывычнае жыццё і як далёка мы самі ад нашых родных і да болю любых нам мясцін. Толькі час-ад-часу даходзяць да нас па радыё і праз газеты весткі аб нашай радзіме, аб нашым Мінску. Колькі гора і сардэчнай мукі прыносяць гэтыя весткі. Там у мяне засталася Ніна. Гэтымі днямі з Мінска паведамлялі, што яна выступала там з нейкім дакладам на пасяджэнні жаночага камітэта беларускай самапомачы. Я страшна баюся, каб яе не ўцягнулі ў якую-небудзь брудную справу, і хоць мы знаходзімся не так далёка ад роднай зямлі, я не маю ніякай магчымасці наказаць маёй беднай дзяўчынцы, каб яна чакала нас і верыла, што мы вернемся, і вернемся, напэўна, хутка. Ад крыўды, ад жалю часамі хочацца плакаць, як хлапчуку. А людзі нашы, з якімі мне даводзіцца сустракацца і перапісвацца, ачарсцвелі нейк за вайну. Не чуваць ні слова і ад Вас, любы Іван Дамінікавіч, хоць Гурскі пісаў Вам ад імя нашага калектыву...»**

**Што тут з чым павязана? У Глебкі — Ніна, а ў Купалы — маці? Нікаў камітэт жаночай беларускай «самапомачы» ў акупіраваным Мінску, і — ?.. А людзі (Гурскі, Кучар, Панчанка?) — не спачуваюць, «ачарсцвелі»? Раптам — нараканне на Купалу, што таксама ачарсцвеў — не здагадаўся адказаць на «КАЛЕКТЫЎНАЕ» пасланне (пісанае Гурскім і падпісанае толькі Гурскім — ад сваёй асобы), — не падумаў адгукнуцца АСАБІСТЫМ спачуваннем Глебку — у ягонай адзіноце і «асірацеласці»?..**

**«Я ўсё чакаў-чакаў адказу на той ліст (!) і не выцерпеў. Тым больш, што надыходзіць дата, пра якую ніхто з нас не мае права забыцца і дзеля якой трэба і лёгка дараваць усе свае дробныя крыўды. Я маю на ўвазе Ваш дзень нараджэння, калі Вам стукне шэсцьдзесят год. Абдымаю Вас, дарагі і мілы Іван Дамінікавіч, і жадаю добрага здароўя, шчасця і весялосці...»**

**Пра якія «крыўды» намякае Глебка? Пра свае — на «ачарсцвелых» (у тым ліку і на дзядзьку Янку)? Ці Купалавы — на Гурскага і Кучара (маўляў, з нагоды юбілею, мілы дзядзька Янка, хто цябе калі дзе крыўдзіў — гэта дробязь, трэба дараваць)?..**

**«У нашай газеце мы мяркуем адзначыць гэту дату з усёй нашай шчырасцю, з якой мы заўсёды ставіліся да Вас і ставімся. Добра было-б, калі-б Вы падаслалі нам да гэтага дня вершы, альбо хоць некалькі слоў. Наша газета цалкам ідзе да партызан і да насельніцтва акупіраванай Беларусі, і як радасна было б ім пачуць Ваша слова. Падумайце, дзядзька Янка, і няхай Вам пашле доля добрую і маладую Музу...»**

**Уявіць няцяжка, як Купала быў удзячны Гурскаму і Кучару — за «шчырасць».**

**«Мая Муза стала здрадлівай: рэдка мяне наведвае. Праўда, і сам я не лепшы: часамі здраджваю ёй з простай, але прывабнай сялянаачкай. А часцей за ўсё бываю заняты рэдакцыйнымі справамі. У мае абавязкі сакратара рэдакцыі ўваходзіць не толькі здача матэрыялу ў друк, але і шмат іншай гаспадарчай работы. Для большай вагі на гэтай пасадзе — я запусціў сабе вялізныя рыжыя вусы і выглядаю, хлопцы кажуць, як добры стары фельдфебель. Калі захочаце ўзглянуць на мяне вусатага, напішыце ліст, і я вышлю картку...»**

Паспрабуем «праявіць» стракаты «негатыў» эпісталярнага «сірочага» (з фельдфебельскімі вусамі) «аўтапартрэта», — атрымаўшы «картку»: ці не разгадаецца праз гэтае пісьмо — загадачка «сервіраванага стала на чатырох асоб»?

Па фанаграме Глебкі—Глебка быў «запрошаны» Купалам у той вечар—да Купалы. І па той жа фанаграме (як і ў іншых успамінах)—вечарам Купалы ў нумары няма: ён выйшаў з Мазальковым, і — наверх? Тым вечарам наверсе (у Лынькова) Глебка — калі верыць фанаграме Глебкі—быў, заходзіў. А па друкаваных успамінах Глебкі—Глебка там не быў. Быў—і не быў? Заскочыў па якой патрэбе на хвіліначку, каб нешта... **Што?**

А мо Купала «выправадзіў» Мазалькова—па сваёй шляхочай далікатнасці: каб не адмовіць Глебку—госцю з франтавой газеты—пафранціць адрозшчанымі вусамі перад кой прывабна-простай «тылавой» кампаніяй («пагаварыць, павалачыцца»)? І Купала на той вечар стаў міжволі беспрытульны (не хацеў вяртацца ў якасці «чацвёртага» ў свой нумар)? Нездарма ж у Глебкі ва ўспамінах «блытаюцца» раніца і вечар, нумары, паверхі і міфічныя кангрэсы з дэтэктыўнымі замахамі на «кангрэсменаў»? Нездарма «сервіраваны стол» не ўспамінаецца нікім, акрамя Глебкі? Не бывае дыму без агню,—ці не адсюль (у бок Купалы) гарбуноўскае: «Дзе ён там швэндае?» (лайдак — не піша публіцыстыку)...

І тут я мушу зноў вярнуцца да пісьма Купалы—Гарбунову і Крупеню, і да тэлеграмы, па якой Купалу клікалі ў Маскву: ці не была яна — «рэзаганнем» на ягонае пісьмо?

Калі вярстаўся папярэдні нумар «ЛіМа», я, здаецца, меў ужо «адказ» (для таго нумара — запознены, не па маёй віне, тым больш—не па віне рэдакцыі: бо доступ у музейны фонд Купалы даўгавата быў закрыты, — цёця Ядзя выбыла, не інакш, пастанову аб «спецхранах»)...

Між Купалавым пісьмом і тэлеграмай быў-такі яму адказ—ад Ц. Гарбунова. Той адказ (дарэчы, як і Глебкава пісьмо) дасюль нідзе не друкаваўся, і таму прыводжу яго поўнасцю, па-руску і нічога не мяняючы (ЛМЯнК № 471):

**«Москва 27.V.42 г.**

**Дорогой Иван Доминикович!**

**Спасибо за Ваше письмо, за хорошие пожелания. Ваше произведение «Грабитель» будет напечатано в первом номере журнала «Славяне», который выйдет в середине июня. Экземпляр журнала Вам будет выслан. Прошу принять участие также во втором номере журнала — июльском. Я в этом журнале работаю ответственным секретарем редколлегии. (Заўважым — вершы трапілі па адрасе — перасылаць іх тав. Лаўрэнцьеву было не трэба).**

**Сообщаю Вам, что журнал пока будет издаваться в СССР на русском языке и возможно будет принято Ваше предложение — часть материалов-беллетристику печатать на славянских языках. Этот же журнал дублированный будет издаваться на пяти-шести языках славян в Америке.**

**Прошу также подумать о произведениях для за границы.**

**Ваш привет товарищу Пономаренко передан и он взаимно Вам кланяется.**

**Ваша просьба — при оказии переслать депутатские и за звание Народного поэта — выполнена. Товарищ КРУПЕНЯ сообщил мне, что деньги для Вас пересланы через тов. ШАВРОВУ — сотрудницу газеты «Красная Татария».**

**Я недавно был вблизи нашей родной Белоруссии. Все, что видел и слышал от очевидцев еще более усиливает неугасимую ненависть к врагам славян — немецким оккупантам.**

**О своей поездке, о виденном я собираюсь Вам написать большое письмо.**

**НАХОДИТЕ-ЛИ ВЫ ВОЗМОЖНЫМ ПО СОСТОЯНИЮ ЗДОРОВЬЯ ПРИЕХАТЬ В МОСКВУ В СЕРЕДИНЕ ИЮНЯ ДНЕЙ НА 10—15?**

**Вот пока и все.**

**Привет Вам, Вашей супруге. Будьте здоровы и счастливы.**

**До скорого свидания в родной Белоруссии.**

**Ваш Тимох Горбунов».**

Падкрэсленае мною — ці не самае галоўнае ў пісьме. Чаму? Па-першае, таму, што «состояние здоровья» вытыркаецца зянацку і нагадвае ці не «шыфроўку»: Гарбуноў **альбо пытаецца ў Купалы — можа ці не можа той прыехаць у Маскву** па стане самаадчування,... **альбо прапануе «закадзіраваць»** паездку пад лячэнне, як зачэпку (бо ў Купалавым пісьме ніякіх скаргаў на здароўе не было, наадварот: «Жыву я тут добра, паёк мяне зусім забяспечвае, у чарзе стаяць не прыходзіцца. Дырэктар млына адносіцца ўважліва і йдзе на спатканне, калі што мне патрабуецца»)...

Пытанне-запрашэнне «не шрубуецца» ні з папярэднім абяцаннем Гарбунова напісаць «о виденном» вялікае пісьмо (навошта — калі ёсць надзея на даволі хуткую сустрэчу?), ні з наступным развітальным «до скорого свидания», — спатканне прызначаецца чамусьці не ў Маскве (куды ён быццам запрашае адрасата), а ў яшчэ не вызваленай «Белоруссии»...

Загадкавы «зандаж»?

Звярніце ўвагу на такую акалічнасць: піша гэты ліст не сакратар ЦК, а сакратар часопіса — калега, сябра, проста «Ваш Тимох». І як адказны сакратар часопіса — нагадвае: «Прошу также подумать о произведениях для за границы» (тое самае, аб чым пісаў раней за Гарбунова тав. Лаўрэнцьеў, ад чаго, па сутнасці, Купала адмаўляўся, пасылаючы не публіцыстыку, а вершы, для якіх патрэбен пераклад на колькі моў).

Загадку «зандажу» я схільны разглядаць як сведчанне таго, што Гарбуноў і сам яшчэ не ведае, ці будзе юбілей, **аднак ён яўна ведае, што недзе ёсць «ваганні»**. Гэтыя «ваганні» нейкім дзіўным чынам адбіваюцца і на кантактах прэсы з юбілярам. Гурскі, пішучы Купалу, «забываецца» пра набліжэнне даты, Глебку яўна давядзецца выпраўляць «прамашку»... Ці не «прамахнуўся» — і адказны сакратар «Савецкай Беларусі» П. Кавалёў, — ён піша ў Пячышчы Купалу 5 чэрвеня 1942 г. (ЛМЯнК № 481):

**«Дзень добры, дарагі Іван Дамінікавіч!**

**Атрымалі Ваш другі верш «Гітлер лютуе». Адразу ж надрукавалі яго. Надрукавалі таксама і «Яшчэ: хлопчык і лётчык». Толькі крыху назву іх замянілі. Думаю, што так лепей. Газеты з надрукаванымі вершамі — выслалі.**

**Цяпер наконт перакладаў. Пераклад першага верша — не падабаўся. А вось пераклад другога, зроблены Е. Мазальковым, атрымаўся добры і я перадаў яго ў «працу».**

**Жывем мы па-старому. Збіраемся тое-сёе выдаць асобнымі зборнікамі ў выдавецтве «Савецкая Беларусь». ПАЧЫНАЕМ РЫХТАВАЦЦА ДА ЮБІЛЕЯ ЯКУБА КОЛАСА, ЯКІ НАПЭЎНА АФІЦЫЙНА БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЦА У КАСТРЫЧНІКУ. Пажадана, каб і Вы некалькі радкоў цёплых прысвяцілі яму.**

**Вось пакуль здаецца і ўсё. Прывітанне Вам ад Кузьмы Чорнага і ўсіх работнікаў рэдакцыі. Жадаю здароўя. З павагай да Вас П. Кавалёў. г. Масква».**

За месяц да Купалавага юбілею — **ані слова пра ягоны юбілей?** І — «афіцыйны» напамін пра коласаўскі юбілей (а да яго ж яшчэ — чатыры месяцы)... Што—гэта? Мо Купалаў юбілей быў «абгавораны» рэдакцыяй і юбілярам — загадзя? Аднак чытаем папярэдняе з рэдакцыі пісьмо Купалу, з подпісамі К. Чорнага і П. Кавалёва (К. Чорны быў загадчыкам літаратурнага аддзела) — ад 23 красавіка 1942 г. (ЛМЯнК № 504а). І там — нічога, акрамя: «Цікава, вельмі цікава ведаць над чым зараз працуеце»... Купала адказаў 2 мая ім абодвум: «Дарагія таварышы Кузьма і Кавалёў!..» (у кн. П. Кавалёў, «На ўсё жыццё», стар. 104). І атрымаў апошняе пісьмо з рэдакцыі — ужо без подпісу Кузьмы, падпісанае толькі Кавалёвым, да таго ж яно адпраўлена з Масквы — назаўтра пасля тэлеграмы з СНК БССР... Уявім, як яно ўспрымалася Купалам: надаецца нейкі знак?

## 7. «Матэрыяльная дакладнасць»

Чым далей, тым больш настойліва ў мой роздум пранікаюць неадчэпныя пытанні «каляндарнага» парадку: у 30-м — снежань, дваццаць першага... Дзень нараджэння Сталіна? Назаўтра ранкам у Купалы — «харакіры». Супадзенне?..

І яшчэ адно. 42-гі. У чэрвені. Трыццатага — праз два дні пасля Купалавай трагічнай смерці (у Маскве) — сканае ў Мінску яго маці. Іх хавалі ў адзін дзень. Таксама — супадзенне?..

Гэткая «маленькая» адлегласць...

Але я хачу дадаць і нешта «трошкі іншага парадку», нешта больш жахлівае — што для Купалы не «ўсплыло з мінулага», а адбылося непасрэдна напярэдадні яго юбілею і аб чым Купала мусіў гаварыць на сакавіцкай сесіі Акадэміі навук БССР у 1942 г. у Казані, у сваім дакладзе «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя»:

**«Усё, абсалютна ўсё, што мае хоць найменшыя дачыненні да гісторыі і культуры беларускага народа, нямецкія выраднкі стараюцца апаганіць, збэсціць і разбурыць. Але яны, гэтыя крывавыя д'яблы, яшчэ прабуюць прыкідвацца нявіннымі авечкамі і спекуляваць сумленнымі і чыстымі імёнамі. Кажуць нават, што яны вуліцу, па якой я жыў у Мінску, назвалі маім імем. Таксама, бачыце, «паважаюць» пісьменніка. Але будзьце вы пракляты, крывавыя выраднкі, за такую «павагу»! Спачатку вы паслалі сотні самалётаў, спалілі гэтую вуліцу дашчэнту, кінулі дзесяткі бомбаў на мой дом, спалілі яго разам з маімі рукапісамі, а цяпер вы прыкідваецеся прыхільнікамі культуры. Такой надругі над культурай свет яшчэ не бачыў. І я — сумленны савецкі пісьменнік—плюю ў ваша агіднае крывавае фашысцкае рыла і ўсім сэрцам сваім жадаю пагібелі вам, катам беларускай культуры».**

Вось цяпер мяркуйце самі — а ці быў бы афіцыйны юбілей Купалы? Ці хапіла «берыеўцам» шчырых гнеўных слоў паэта ў адрас акупантаў? Ці паверылі — яму? Яны ж і Горкаму не верылі, што ён не хоча «псеўданімнай» назвы гораду свайго дзяцінства, а тым паверылі... Ды нават і калі б паверылі — хто можа здагадацца сёння, у якім з сюжэтаў абсурдыцкага тэатра Берыі і Сталіна — якую ролю рыхтавалі «драматургі» гэтага тэатра для ашальмаванага фашыстамі Купалы? Мо патрабавалі — новых «пакаяннняў» (колькі іх было ў Купалы)...

Барадулька... Бэндэ...

Рана зноў закрываецела...

За пяць дзён да смерці, 23 чэрвеня, ён напісаў на тэлеграфным бланку — у Пячышчы: «Все хорошо лечусь Кремлевской клинике бесперерывные дожди холод гостиница Москва 414 привет Купало».

Чэрвень — холад...

Гэтай тэлеграмы мы не ведалі, яна нідзе не друкавалася (ЛМЯнК № 443).

Адкуль даведаўся паэт пра «гебельсаўскі» фортэль з прысваеннем вуліцы (былой Хрышчэнскай, а пазней Кастрычніцкай*) — ягонага імя? Газет «адтуль» ён не атрымліваў і радые «адтуль» наўрад ці слухаў,

Пачатак публікацыі ў нумарах за 2 і 9 снежня.

* Цяперашняя вуліца імя Купалы — у пасляваенны час Садовая — у перадваенны час насіла назву Пралетарскай.

# «АПАЛОН-ЗАКАНАДАЎЦА...» — АДНОЎЛЕНЫ ПОМНІК

## З МУЗЫЧНАГА АРХІВУ

АДРАДЖЭННЕ незаслужана забытых і адкрыццё невядомых помнікаў старажытнага мастацтва — адна з характэрных з'яў сучаснага мастацтвазнаўства. Асабліва прыкметная цікавасць да культуры мінулага ў сферы беларускага музыказнаўства, бо многія працэсы і з'явы дарэвалюцыйнай нацыянальнай музычнай культуры доўгі час былі па-за межамі навукова-даследчай практыкі — прынамсі, опернае мастацтва XVIII стагоддзя.

Таму беларускі музыказнаўца Ларыса Касцюкавец прапанавала мне, выпускніцы кансерваторыі, узяць тэмай дыпломнай работы расшыфроўку опер XVIII стагоддзя «Апалон-заканадаўца, або Рэфарміраваны Парнас».

Камічная опера «Апалон-заканадаўца...» — унікальны і пакуль што адзіны выяўлены ўзор беларускага музычна-сцэнічнага мастацтва другой паловы XVIII стагоддзя. Аўтар гэтай оперы, ці як у той час назывالі творы такой формы «аперэткі», — кампазітар і вучоны-дамініканец Рафаэль Вардоцкі. Тэкст оперы напісаны на польскай мове і складаецца з дзвюх частак: празаічнага тэксту, які размешчаны паміж музычнымі нумарамі, і вершаванага, падпісанага пад нотамі. Аўтар празаічнага тэксту польска-беларускі драматург прафесар рыторыкі Забельскага калегіума Міхаіл Цяцерскі. Аўтар вершаў невядомы.

Арыгінал музычнага тэксту оперы — рукапіс у зборніку на польскай і лацінскай мовах, у якім змешчаны работы за 1789, 1790 і 1791 гады вучняў і настаўнікаў Забельскай школы-калегіума. Рукапіс зборніка ўключае таксама віншаванні прэфэкту, оды, арацыі, шэраг школьных «забавак», «судовыя справы», вершы і эпіграмы, камедыі, драмы і трагедыі, г. зн. літаратурныя і музычна-сцэнічныя творы. Зборнік надзвычай цікавы як помнік беларускай літаратуры XVIII ст. — доктар філалагічных навук А. Мальдзіс нездарма даследаваў яго (гл. Мальдзіс А. І. Таямніцы старадаўніх сховішчаў. Мінск, 1974. С. 152—175).

У 1790—1791 гг. «Апалон-заканадаўца...» быў упершыню пастаўлены на сцэне школьнага тэатра ў Забелах з нагоды заканчэння вучэбнага года.

Польскі музыказнаўца Е. Голас зрабіў спробу праналізаваць «Апалона...» з пункту гледжання музычных каштоўнасцей у невялікім артыкуле (гл. Golos I. «Apollo-prawadawca — opera szkólna».— Muzyka, Warszawa, 1968. № 2, S. 22-33).

Адзін аўтарскі экземпляр рукапісу оперы «Апалон-заканадаўца, або Рэфарміраваны Парнас» захоўваецца ў аддзеле рукапісаў і друкаванай кнігі бібліятэкі АН Літоўскай ССР у Вільнюсе. Перада мною паўставала задача расшыфраваць старадаўні нотапіс, перакласці яго на сучасную музычную мову, каб опера акрыяла, атрымала сваё другое нараджэнне, падрыхтаваць партытуру да друку, каб гэтую оперу маглі пачуць нашы сучаснікі, убачыць на музычнай сцэне. Пад кіраўніцтвам Л. Касцюкавец я выканала гэтую цікавую і адказную працу. Упершыню партытура «Апалона-заканадаўцы...» цалкам была расшыфравана.

Работа была звязана з многімі цяжкасцямі, бо музычны запіс выкананы таропка, нядбайна. Ноты ў многіх месцах напісаны невыразна і часам не паказваюць дакладнага вышыннага палажэння гукаў. Таму мне давялося зрабіць рэдакцыйную рэстаўрацыю нотнага тэксту з улікам гарманічных вертыкалаў і гучаннем акордыкі. У музычным тэксце часта трапляюцца дадатковыя, дапаможныя пазначэнні, якіх няма ў сучаснай тэорыі музыкі. Значэнне асобных з іх і дасюль вымагае далейшага даследавання, каб раскрыць іх першапачатковы сэнс. На асобных аркушах сустракаюцца «зрэзаныя» нотныя радкі, якія ўтварыліся, відаць, пры падрыхтоўцы рукапісу да пераплёту. У рукапісе не ўсюды захоўваецца парадак паступовага выкладання музычнага тэксту, пра што сведчаць нотныя ўстаўкі... Словам, усё гэта, як і асаблівасці размяшчэння нотнага тэксту, выклікала вялікую цяжкасць пры расшыфроўцы, падтэкстоўцы, перапісцы і звядзенні яго ў партытуру.

Рукапіс напісаны польскім напышлівым хуткапісам з росчыркамі на літарах. У саміх тэкстах, апрача характэрнай арфаграфіі польскай мовы другой паловы XVIII ст., сустракаецца шмат недакладнасцей. Толькі дзякуючы таму, што ў нотах частыя паўторы тэкстаў, удавалася, параўноўваючы, знаходзіць правільны варыянт і выпраўляць памылкі.

У оперы дзейнічаюць «высокія» антычныя багі і высакародныя героі (літаратары, музыканты, паэты, спевакі), якія змагаюцца з «цёмным царствам» ліха, помслівасці, падману (Меркурый, Сільванус, Момус, Манун, Бахус і г. д.). Антычныя персанажы гэтай камічнай оперы вядуць размову ў аратарска-паэтычным шчылі распеўнай дэкламацыі, несумненна, атрыманай ад французскага класічнага тэатра XVIII ст. з яго бліскучай моўнай драматургіяй. Увага слухачоў, дзякуючы гэтаму, канцэнтруецца на ўнутраным жыцці гэрояў, іх псіхічным, душэўным стане. Побач са звыклымі для эстэтыкі класіцызму антычнымі міфалагічнымі багамі, тытанамі, паэтамі і сацірамі, у оперы «Апалон-заканадаўца...» нечакана з'яўляецца беларускі селянін. Такое ж незвычайнае сумяшчэнне «высокіх» і «нізкіх» персанажаў уласціва беларускай паэме «Тарас на Парнасе», у цэнтры якой просты чалавек з народа. У тэксце М. Цяцерскага дзеянні «высокіх» персанажаў зводзяцца да розных хітрыкаў, інтрыг і подкупаў, задуманых з нізкай мэтай — перашкодзіць «устанаўленню добрых законаў» і «мудрых пісанняў». «Цёмныя сілы» садзейнічаюць распусніцтву, інтрыгам, якія з'явіліся на «заражоным Парнасе». Галава міфічнай дзяржавы Апалон адзіны правільны шлях знайсці і ўстанавіць ісціну бачыць у абавязковай рэформе Парнаса, якую ён ажыццяўляе з дапамогай паэтаў, спевакоў, музыкантаў і селяніна.

Форма казкі і самі міфалагічныя героі былі неабходныя аўтару для раскрыцця ў алегарычнай форме найбольш важных бакоў грамадскіх адносін свайго часу. Праз міфалагічны сюжэт асуджаецца ідэя неабмежаванай улады, выкрываецца маральная распуста тых, хто мае ўладу.

У беларускай камічнай оперы «Апалон-заканадаўца, або Рэфарміраваны Парнас» раскрываецца філасофская канцэпцыя новага свету ідэй і пачуццяў, якія былі ўласцівыя перадавой грамадскасці XVIII стагоддзя. Кампазітар і паэт насычаюць твор яскравым драматычным зместам, глыбока і ўсебакова адлюстроўваюць рэчаіснасць з яе вострымі жыццёвымі калізіямі, скарыстоўваючы пры гэтым паэтычна-музычную мову свайго часу. У гэтым сацыяльная сіла твора, якая дасюль надае яму яскравае драматычнае гучанне і актуальнасць.

Не буду зараз падрабязна распавядаць пра структуру оперы, пра змест кожнай часткі. Зазначу толькі, што драматургія «Апалона...» вызначаецца цэласнасцю, завершанасцю, заснавана на маляўнічым чаргаванні і кантрастным супастаўленні дастаткова вялікіх па форме, закончаных па структуры музычных нумароў (арый, ансамбляў, рэчытатываў, харавых і аркестравых эпізодаў), якія перарываюцца гутарковай мовай, аналагічна асноўнаму прынцыпу французскай камічнай оперы XVIII ст. Адметна, што музычную драматургію «Апалона...» фарміруюць не асобныя музычныя нумары, а буйныя тэатральныя сцэны, «перакладзеныя» на мову музыкі, што дазваляе слухачам успрымаць твор як адзіную размаітую карціну з мэтанакіраваным развіццём сюжэтнай лініі.

Опера «Апалон-заканадаўца...» гаворыць пра яе кампазітара Р. Вардоцкага як пра таленавітага аўтара, які, відаць, быў выхаваны на ўзорах заходнееўрапейскай музыкі, адчуў на сваёй творчасці ўплыў італьянскай камічнай і аўстра-нямецкай (зінгшпіль) опер. Адначасова ў многіх арыях, дуэтах, хорах гэтай оперы адчуваюцца матывы беларускай, польскай народнай песеннасці (напрыклад, арыя «мужыка»; арыя Апалона напісана ў характары польскага нацыянальнага танца паланеза — «Прыйдзіце, пакажыце, найслаўнейшыя мудрацы»). Музычнае суправаджэнне ў оперы «Апалон-заканадаўца...» выконвае не толькі ролю акампанементу вакальных партый, як гэта ў асноўным наглядаецца ў многіх школьных «аперэтках», а набывае самастойнае значэнне. Побач з традыцыйнымі інструментамі таго часу кампазітар уводзіць у практыку і новыя (напрыклад, кларнеты).

Опера «Апалон-заканадаўца, або Рэфарміраваны Парнас» мае шмат вартасцей і мае быць грунтоўна вывучана. Гэтая опера — адзін з выдатных прыкладаў беларускага прафесійнага музычнага мастацтва XVIII стагоддзя, і яна вартая пастаноўкі на сучаснай сцэне, каб нашы слухачы пазнаёміліся з набыткамі нацыянальнай беларускай музычнай культуры.

**Ірына КОРЗУН,**
**музыказнаўца.**




**З 19 па 25 СНЕЖНЯ**

**19 снежня, 19.50**

**«БАЦЬКАЎ ДАР»**

100 беларускіх народных песень са збору Р. Р. Шырмы.

У гэтым выпуску прагучаць беларускія народныя песні часоў Вялікай Айчыннай вайны. Знаёміць з імі беларуская фалькларыстка З. Мажэйка.

**19 снежня, 20.40**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты тыдня.

**20 снежня, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма. Размова пойдзе пра адносіны мастака і грамадства.

**22 снежня, 19.55**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**

Вершы А. Міцкевіча ў перакладзе Ю. Гаўрука чытае А. Лабуш.

Перадача падрыхтавана да 190-годдзя з дня нараджэння паэта.

**23 снежня, 23.25**

**«НАВАПОЛАЦК-88»**

III Рэспубліканскі фестываль маладзёжнай песні і музыкі.

**24 снежня, 12.15**

В. Астаф'еў. «Крадзеж».

Спектакль Ленінградскага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. Пастаноўка і інсцэніроўка Л. Стукалава.

**24 снежня, 15.00**

**«МЕТРАНОМ»**

Пытанне без адказу, або Чаму не атрымалася перадача пра Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР.

Вядучы — кандыдат мастацтвазнаўства В. Ракіцкі.

**24 снежня, 18.15**

«Альтанка шчасця майго».

Тэлевізійная навела паводле вершаў А. Міцкевіча.

**24 снежня, 19.25**

**«НАВАПОЛАЦК-88»**

III Рэспубліканскі фестываль маладзёжнай песні і музыкі. Заключны канцэрт.

**25 снежня, 18.10**

**«ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ»**

Перадача падрыхтавана да 85-годдзя з дня нараджэння народнага артыста СССР Б. Платонава.

У ёй бяруць удзел народныя артысты рэспублікі І. Ждановіч, З. Браварская, М. Захарэвіч, заслужаная артыстка БССР Г. Аляксеева, мастацтвазнаўца А. Сабалеўскі.

**25 снежня, 19.20**

**«ЦУДОЎНАЕ ДАЛЕКА»**

Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання.

Аўтар сцэнарыя І. Яфрэмава, рэжысёр В. Жыгалка.

**25 снежня, 19.50**

**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**

В. Кузняцоў. Г. Бураўкін. Вакальна-сімфанічная паэма «Кастусь Каліноўскі».

Выконваюць заслужаны артыст рэспублікі В. Скарабагатаў і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларускай ССР пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Ю. Яфімава.

**25 снежня, 22.55**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01512 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.